# Зьмест № 3.



---

Менск, 1-я Дзяржаўная друкарня, зак. № 2628. Лік экз. 4000. Галоўлітбел 8157.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопіс.

№ 3. Сакавік 1925 г. № 3.



## Пытаньні с.-г. працы вясною.

Селяніну неабходна ведаць аб усіх мажлівасьцях, якія ён можа скарыстаць дзеля сваёй гаспадаркі вясною. Савецкая Дзяржава ў асобе сваіх установў Наркомзема, С.-г. Банка, Цэнтраземсклада і інш. зрабіла значныя і рэальныя крокі дзеля стварэньня шырокіх мажлівасьцяй па адбудове нашае сельскае гаспадаркі на больш культурны лад.

Так, *да веснавога засеву палёў* куплена шмат рознага насеньня. Аднае толькі канюшыны маецца каля 40000 пуд., лубіну й выкі каля 60000 пуд.; куплена шмат насеньня сэрадэлі, сартавога лёну, аўса й ячменю. Набыта насеньне лугавых траў, буракоў, гародніны і інш. Далей, куплена шмат сельска-гаспадарчых машын і прыладаў (плугі, бароны і г. д.), куплены парашковыя ўгнаеньні (фосфар, калі, азот), а гэтак-жа маюцца сродкі дзеля барацьбы са шкоднікамі сельска-гаспадарчых расьлін.

Што знача ўсё гэта?

А знача тое, што дзеля таго, каб запраўды разумна будаваць нашу сельскую гаспадарку, каб зрабіць яе даходнай і культурнай, патрэбны належныя сродкі. І напраўду, што знача гутарка аб шматпольлі, пры якім трэба сеяць канюшыну, шматгадовыя травы, калі канюшыны й гэтых траў няма.

Другі прыклад. Як селяніну позны папар зрабіць занятым ці ўгнаіць поле пад жыта лубінам, калі ні лубіну, ні выкі нельга купіць, бо іх няма на рынку.

Возьмем яшчэ за прыклад сартавое насеньне, якое таксама закуплена цяпер.

Ужо не сакрэт, што сартавое насеньне павялічвае ўраджай на 30-40 проц. Так, Заходня-сібірская сартавая станцыя за чатыры гады свае працы вывела новыя сарты, якія ўзвышаюць ураджаі пшаніцы на 38 проц., аўса на 50, проса на 30 проц.

І рэч зразумелая, бо сартавое насеньне адбіраюць доўгі час на вышыню ўраджая. А вядома, якое племя, такі й прыплод.

Добры уплыў робіць *ачыстка і сартаваньне свайго насеньня.* Памыляецца той селянін-бядняк ці серадняк, які думае, што яму не патрэбна ачыстка насеньня („абы й так хапіла засеяць“). Вось тут-то ён, як той скупы, і траціць два разы. Засьмечанага насеньня й пасеяць трэба больш, і ўраджай будзе меншы.

Наадварот, добра робяць тыя сяляне, якія й ноччу працуюць з машынамі агрономічнага абозу, каб ачысьціць насеньне да засеву.

*Такая ж карысць і ад пратравы насеньня.* Тут гаспадар зьнішчае шкодную заразу грыбкоў, як галаўня ці сажа, якая ў некаторыя гады на палову наша збожжа робіць з чорнымі каласамі. Несьвядомы гаспадар толькі разважае, што „хлеб спаліла маланка“. А з гэтым можна весьці барацьбу, калі пратравіць насеньне хоць сінім каменем.

Цяпер яшчэ адно. Наша *жывёлагадоўля становіцца асновай сялянскае гаспадаркі*. Тут з яе можна мець карысьць і ад малака, і ад сьвіньней, і ад коняй. Але трэба толькі дбаць аб якасьці жывёлы, трэба набываць добрае племя.

Дзяржава й тут робіць значныя крокі й *набывае завадзкіх вытворнікаў* (жарабкі, быкі, кноразы) дзеля скарыстаньня іх сялянствам у час вясеньняе злучкі. Шмат чаго робяць у гэтым кірунку нашы Савецкія й племянныя гаспадаркі, с.-г. коопэрацыя і інш.

Але вядома, што наша сялянства цяпер яшчэ вельмі бедна сродкамі, і шмат чаго набыць яно ня здолее.

Загэтым, Дзяржава мае на мэце *адчыніць мажліва шырокі крэдыт* на некаторыя машыны, насеньне й угнаеньні.

На справу крэдытаваньня ў веснавы час вызначаецца каля двух з паловай мільёнаў руб. Такім чынам, Савецкая ўлада робіць значныя крокі, каб даць мажлівасьць у першую чаргу нашым прысёлкам, маламоцнаму сялянству, колектыўным і коопэрацыйным гаспадаркам, шматпольнікам і навогул найбольш прогрэсыўнаму сялянству, як найхутчэй і правілова распачаць адбудову сельскае гаспадаркі.

Цяпер паўстае другое і вельмі значнае пытаньне, *як ўсе пералічаныя сродкі і мажлівасьці скарыстаць шырэй і своечасна*, каб у канцы году мець найбольш практычныя вынікі. Вясна й вяснавая праца на полі вызначае амаль усё на цэлы год.

Да веснавое працы трэба гатавацца. Трэба, як найшырэй і зараз жа высьветліць сялянству ўсе мажлівасьці, якія можа выкарыстаць кожны гаспадар цяпер і вясною ў часе працы на полі. На ўсіх сходах, сялянскіх конфэрэнцыях, у працы С.-г. Рад і гурткоў трэба ставіць пытаньні: *якое насеньне, с.-г. машыны, угнаеньні* і г. д. патрэбны кожнаму гаспадару ці вёсцы, *як атрымаць іх своечасна, ці купіць па льготнай цане, як скарыстаць умела ўсё тое, што набыта Дзяржавай* дзеля наступнай с.-г. працы вясною.

Кожны гаспадар павінен загадзя абдумаць, як кажуць, абмазгаваць, што *новага й культурнага ён зробіць у сваёй гаспадарцы, якое выбярэ шматпольле, дзе будзе сеяць канюшыну, ці завядзе выку, гарох і лубін* замест сялянскага папару, *ці падсее сэрадэлю ў жыта*, каб мець больш корму; ці патрэбны яму *буракі, сартавое насеньне* і г. д.

Усё гэта трэба абдумаць селяніну й выразна сабе ўявіць, што ён хоча й што можа зрабіць дзеля свае гаспадаркі. Цяпер, больш чым калі, селяніну патрэбна самадзейнасць і сьвядомасьць, а мо' нават і с.-г. творчасць. Ужо нельга жыць адарваным гаспадаром, а патрэбна сувязь з агрономам, с.-г. аб'яднаньнем коопэрацыяй, крэдытовым таварыствам, рынкам і г. д.

Цяпер селяніну ўжо нельга абыйсьціся без газэты, часопісі, с.-г. кнігі. Агульнае с.-г. жыцьцё і ўсе крокі Савецкае ўлады па адбудове сельскае госпадаркі сялянству патрэбна ведаць.

Падгатаваньне да часу веснавое працы на полі вымагае й шмат дзейнасьці ад усіх зямельных, агрономічных, культурных і політычных працаўнікоў вёскі. Жыцьцё вызначае іх значную ролю ў пашырэньні і кіраваньні нарастаючай самадзейнасьцю передавога сялянства.

Поруч з агрономам усе гэтыя сілы нашае вёскі з першых дзён вясны стануць працаваць і гатавацца ўжо да асеньняга сьвята „Дню ураджая“.

**Сьц. Тупяневіч.**

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Да працы вясною.

За астатнія два гады, дзякуючы упартай працы сялянства, агульная плошча засеваў амаль падышла да плошчы 1913 году, але ўраджаі збожжа значна зьменшыліся, падупала продукцыйнасьць жывёлы і г. д.

Параўнаньне плошчы паасобных культур паказвае, што збожжавыя расьліны (жыта, авёс, ячмень і грэчка) павялічылі сваю плошчу пры адначасовым зьмяншэньні засеву канюшыны, вікі, бульбы і лёну. Сялянская гаспадарка такім чынам прыняла больш збожжавы кірунак, але зьнізіла сваё ўраджаі й агульную даходнасьць, чым і ўтварылася даволі цяжкае яе становішча.

*Замест трохпалёўкі—шматпольле.* Гаспадарку неабходна перабудоўваць на больш даходны лад. Практыка паказала, што ў нашых умовах збожжавы ухіл сельскае гаспадаркі неабходна зьяніць на жывёлаводны, як больш даходны. Раней разьвіцьцю жевёлагадоўлі перашкаджала адсутнасьць добрага корму. Наша жывёла часта корміцца саломою і нязначным лікам сена.

Трохпалёўку, якая не спрыяе развіцьцю жывёлагадоўлі, павінна зьмяніць шматпольле, дзе будзе абавязковы засеў траў (канюшыны, вікі, сэрадэлі) на полі. Гэты засеў траў дасьць мажлівасьць павялічыць лік жывёлы, і будзе спрыяць узросту ўраджая збожжавых расьлін.

Наркомзем у гэтым годзе пабудаваў свой плян дапамогі сялянскай гаспадарцы такім чынам, каб здаволіць яе насеньнем кармовых траў (канюшыны, вікі, сэрадэлі). Насеньне канюшыны ў першую чаргу будзе выдавацца ў крэдыт таму, хто абмяркуе засеў яе ў правіловым севазвароту.

Насеньне вікі мае значэньне дзеля засеву яе ў папарным полі на сена ці зялёны корм. Засеў сэрадэлі найбольш пашырыўся за апошнія два гады на Меншчыне. Насеньня сэрадэлі загатована 7000 пудоў і будзе давацца яно ў крэдыт да аднаго году.

Як бачым, дзеля пераходу на шматпольле насеньне розных траў маецца, а агрономічная дапамога гэтак-жа будзе зроблена.

*Лубін на зялёнае ўгнаеньне* на бедных пескавых глебах мае вялікае значэньне. Пры нястачы гною лубін зьяўляецца асновай пескавае гаспадаркі. Найбольш шырока ён распаўсюджан на Меншчыне. У 1924 годзе пад лубінам было звыш 30.000 дзесяцін. Вельмі пажадана пашырэньне лубіну на Мазыршчыне, дзе шмат пескавых плошчаў, і дзе сялянства мала знаёма з засевам лубіну. На здабываньне насеньня лубіну будзе давацца льготны крэдыт.

*Пашырэньне культуры лёну* асабліва на Віцебшчыне і Магілеўшчыне, як на валокно, так і на семя, заслугоўвае увагі. Як вядома, плошча лёну за час вайны і рэволюцыі значна падупала. У сучасны момант збыт лёну заграніцу зноў спрыяе пашырэньню гэтае культуры. З даходнасьцю лёну можна параўнаць толькі культуру бульбы ці канюшыны. Па вылічэньню вядома, што дзесяціна аўса пры сярэднім ураджаю 50 пудоў дае чыстага даходу 14 р. 60 кап. Лён-жа пры сярэднім ураджаю 15 п. валакна і 20 п. семя дае даходу 38 р. 35 кап., а бульба пры ўраджаі 500 пудоў—42 р. 46 кап.

Пры добрай апрацоўцы і ўгнаеньні глебы ўраджаі лёну могуць быць і большымі. Гэтак-жа большы ўраджай дае і сартавы лён—даўгунец, якога закуплена каля 9.000 п.

*Насеньне траў* (канюшыны, выкі, сэрадэлі) вельмі каштоўна атрымоўваць у сваёй гаспадарцы. Пры нястачы насеньня даводзіцца купляць яго заграніцай і па высокім цэнам (пуд канюшыны каштуе 20-25 р.). Найлепш дзеля гадоўлі насеньня сялянству з'організоўваць насенныя таварыствы, якім даецца льготны крэдыт і дарагія сартавальныя машыны. На крэдытаваньне насенных гаспадарак вызначана 50 т. рублёў. Усе насенныя вучасткі й у гэтым годзе, мажліва, будуць звольнены ад продналогу.

*Паляпшэньня апрацоўкі глебы* можна дасягнуць раньнім ворывам папару. Вялікае значэньне мае і апрацоўка папару на працягу ўсяго лета. У шмат якіх раёнах асабліва на шчыльных глебах можа быць карысным і баранаваньне зімовых засеваў.

Добрыя вынікі можа мець і парашковае ўгнаеньне палёў, якое за час вайны значна зьменшылася (на 50 проц.). Нам патрэбны парашкі, якія багаты фосфарам (супэрфосфат, тамасшлак, фосфарытавая мука), а гэтак-жа будзе мець значэньне і ўгнаеньне попелам, торфам і г. д.

*Патрэбны с.-г. веды.* Усё пералічанае кожны гаспадар можа зрабіць у сваёй гаспадарцы, калі ён будзе сам зацікаўлены гэтым паляпшэньнем, а гэтак-жа будзе мець і неабходныя веды.

Усе сельска-гаспадарчыя веды селянін можа атрымаць:

1) на с.-г. курсах, лекцыях, конфэрэнцыях свайго раёну;

2) чытаючы газэты, журналы, кнігі па сельскай гаспадарцы і прымаючы удзел у працы С.-г. Рад і гурткоў.

Кожны селянін павінен памятаць, што „бяз ведаў—няма хлеба“.

**М. Еўдакімаў.**

---

# Сейце травы на полі.

*Чырвоная канюшына.* Калі канюшынай маюць на мэце карыстацца толькі адзін год, тады яе сеюць бязь прымешкі др. траў. На глебах глiністых і суглінкавых на 1 дзес. сеюць 35-40 фун. насеньня канюшыны; на глебах-жа супескавых і пескавых 45-50 ф.

Калі канюшынай карыстаюцца 2-3 гады, прычым астатні год канюшына йдзе пад выган, то карысна да чырвонае канюшыны прымешваць і другія травы—цімафейку, белую і швэцкую канюшыну. У астатнім выпадку можна раіць гэткія мешаніны:

1) чырвонае канюшыны 35 фун. і цімафейкі 15 фун., або
2) чырвонае канюшыны 40 фун. і цімафейкі 10 фун., або
3) чырвонае канюшыны 30 фун., белае 10 фун. і цімафейкі 10 фун., або
4) чырвонае канюшыны 30 фун., цімафейкі 10 фун., белае і швэцкае канюшыны па 5 фун.

У залежнасьці ад прынятага ў гаспадарцы севазвароту, канюшыну можна сеяць пад зімовыя і яравыя расьліны.

Пры падсеву канюшыны пад зімовыя расьліны, падсеў трэба рабіць чым раней (як толькі зыходзіць апошні сьнег) і ўва ўсякім выпадку яшчэ пры мёрзлай зямлі.

Калі сеюць канюшыну пад ярыну, то сеяць яе лепш пасьля баранаваньня пасеянага збожжа. У гэтым выпадку насеньне канюшыны прыкрываецца ў адзін сьлед бараною або калодкай (вальцам) ці валакушкай з хворасту.

*Яравая выка і пялюшка.* Абедзьве расьліны можна сеяць дзеля атрыманьня зялёнае масы, зімовага корму ці насеньня.

Насеньне пялюшкі йдзе на корм скаціны, а часта й чалавеку. Досьледы паказваюць, што пялюшка лепш за выку расьце на бедных пескавых глебах, але дае даволі дрэнны корм. Як выку, так і пялюшку сеяць лепш з прымешкай другіх расьлін—аўса, ячменю й інш: яны падтрымоўваюць пялюшку і выку ад паляганьня.

Сеяць выку і пялюшку трэба, як мага, раней і ўсьлед за вывазам і заворваньнем гною. Праўда, выку і пялюшку не абавязкова сеяць на гнаі, але калі яны зьмяшчаюцца ў папару, то часьцей пад іх кладзецца гной. На дзесяціну высяваюць выкі ці пялюшкі 8 пуд. і ў прымешку аўса 4 пуд. На горшых глебах можна некалькі зьменшыць насеньня выкі (7 п.) і павялічыць аўса (5 п.). Добра да выка-пялюшка-аўсянае мешаніны дадаць 1 пуд ячменю ці гароху, што павялічвае кармовую масу. Сеючы выку на зярно, дадаюць аўса толькі 2—3 пуды.

Прыкрываюць насеньне бараной ці шматлямешным плугам на $1^1/_2$ вяр. глыбіні. Пасьля гэтага поле ўкатваецца калодкаю, што палягчае уборку.

В. Жыван.

---

## Сэрадэля.

Сэрадэля належыць да ліку бабовых расьлін, як лубін, канюшына, выка і інш.

Яна расьце на самых бедных пескавых глебах, не патрэбуе асобнага ўгнаеньня і таму селянін абавязкова павінен сеяць гэту расьліну.

Трэба толькі ведаць некаторыя асаблівасьці ў росьце сэрадэлі й тады яна заплаціць гаспадару за працу сваім ураджаем.

Сеяць сэрадэлю можна адну (чыстай культурай) і як падсяўную расьліну. Падсейваюць сэрадэлю вясною ў жыта, як толькі сыйдзе сьнег. Пасьля севу, жыта лёгка барануюць. Калі-ж вільгаці дзеля прарасту насеньня хопіць—можна й не баранаваць. Пакуль жыта расьце, сэрадэля мала прыметна. Але пасьля жніва, маючы доступ сьвета, сэрадэля хутка расьце й яшчэ да асеньніх дажджоў і холаду дае значны ўраджай добрага корму. Здараецца, што падсяюць сэрадэлю пад ярыну.

Чыстай культурай сэрадэля дае добры ўраджай. Але чыстая культура мае й свой адмоўны бок. Сэрадэля мае вельмі тонкае сьцябло, на якім месьціцца шмат лісьцяў і кветак, чаму яна часта палягае.



Сэрадэля.

Калі сэрадэля падсеяна ў жыта, то пасьля скосу мае прымешку ржышча, але яно забясьпечвае сэрадэлю ад паляганьня пры росьце.

Які з гэтых спосабаў засеву сэрадэлі лепшы, сказаць цяжка. Селяніну лепш самому ў гэтым спрактыкавацца.

*Чаму сэрадэля не ўдаецца.* Ня глядзючы на тое, што сэрадэля расьце на самых бедных, ня ўгноеных глебах, сяляне часта скардзяцца, што сэрадэля не ўдалася ці зусім ня ўзыходзіць. Чаму гэта так?

Як вядома, усялякая расьліна пакуль расьце павінна знаходзіць у глебе пажыўныя солі з наліччам азоту, калі, фосфару, вапны й інш.

Наша глеба звычайна бедна гэтымі солямі і недастачу іх, асабліва азоту, гаспадар можа папоўніць засевам бабовых расьлін, да якіх належыць і сэрадэля. Бабовыя-ж расьліны пры сваім росту карыстаюцца азотам паветра пры нязвычайна цікавай працы клубяньковых бактэр'яў, якія жывуць на карэньнях гэтых расьлін і ўтвараюць на іх асаблівыя *наросты-клубянькі* ці *бульбінкі*.

Пасьля скосу сэрадэлі, карэньні яе з клубянькамі застаюцца ў зямлі. Там яны згніваюць і пераходзяць у спажыўныя солі вельмі каштоўныя дзеля ўсіх небабовых расьлін.

На полі, якое першы раз засеяна сэрадэляй, клубяньковых бактэр'яў няма й таму сэрадэля бывае няўдалай, а часамі й зусім ня ўсходзіць. Каб забясьпечыць сябе ад гэтага, трэба насеньне сэрадэлі заразіць клубяньковымі бактэр'ямі. Дзеля гэтага бяруць зямлю з поля, на якім у мінулым годзе ўжо расла сэрадэля, зямлю высыпаюць ў якуюнебудзь пасудзіну, наліваюць цёплаватае вады й даюць пастаяць 2-3 дні, каб размножыліся бактэр'і. Далей насеньне сэрадэлі з мяшком апушчаюць у скаламучаную ваду пасудзіны, і разгортваюць яго рукою. Праз гадзіну насеньне дастаюць, сушаць і зараз-жа сеюць.

Есьць і яшчэ спосабы заражэньня сэрадэлі бактэр'ямі, напрыклад, перамешваць насеньне сэрадэлі з гразёю заражонаю бактэр'ямі.

Калі здарыцца, што ў вёсцы сэрадэлі яшчэ ня сеялі, то можна ў іншым месцы ўвосень вырваць некалькі кустоў сэрадэлі, ababраць з карэньняў клубянькі і захаваць іх да засеву. (Аднае кварты клубянькоў хопіць на ўсё поле вёскі). Вясною трэба растаўчы клубянькі й размножыць бактэр'і, як было апісана. Хаваць клубянькі можна ў склепе, гледзячы, каб яны не пагнілі.

*Карысьць ад сэрадэлі.* Скасіўшы сэрадэлю, мы перш за ўсё маем добрае сена, якое па сваёй якасьці ня толькі ня горшае ад канюшыны, а нават і шмат лепшае. Смакавыя якасьці сэрадэлі таксама вялікія. Жывёла зьядае яе вельмі добра. Каровы пры корме сэрадэляй павышаюць удоі, а коням яна можа замяніць часткаю авёс.

Знача, сэрадэля дае значны ўраджай добрага сена і ўзбагачвае глебу азотам. Яе можна падсяваць пад жыта ці ярыну й ў той-жа год здымаць яшчэ добры ўраджай корму (з аднаго поля два ўроджаі)

На дзесяціну патрэбна каля трох пудоў насеньня сэрадэлі. Яго можна дастаць на складах Наркомзема (Менск і ўсе Акруговыя цэнтры) па цане 3 руб. за пуд.

**Алесь Дзямідовіч.**

---

# Догляд і ўгнаеньне сенажаці.

Памыляецца той гаспадар, які думае, што сенажаць з году ў год можа даваць добры укос сена. Для добрага укосу патрэбен догляд і угнаеньне сенажаці.

Кожную вясну гаспадар павінен ачысьціць сваю сенажаць ад гальля, зьнішчыць мох, куп'ё і кусты.

Мох выдзіраюць рана вясной бараною, як толькі сыйдзе сьнег. Выдраны мох ідзе на подсьціл жывёле.

Праз тыдні два, як зямля аттане, сенажаць яшчэ раз барануюць і вельмі патрэбна ўгноіць яе парашкамі, або ўгнаеньнямі сваёй гаспадаркі.

Да ўгнаеньняў сваёй гаспадаркі належыць *попел, кампост, гнаёвая жыжка.*

*Попел* да расьсеву на сенажаці хаваюць у сухім месцы. Добра захованы сухі попел найлепш скарыстаць на сырых сенажацях і асушаных балотах. На дзесяціну сенажаці патрэбна пудоў 70-100 попелу. Пасьля расьсеву попелу сенажаць яшчэ раз барануюць. Ураджаі сена ад попелу павялічваюцца на працягу 3-4 год.

*Кампост* можа прыгатаваць кожны гаспадар, зьбіраючы ў адну кучу ўсялякія адкіды сваёй гаспадаркі (сарнякі гароду, лісьця, пырнік з поля, рознае сьмецьце, пыл дарог і г. д.). Калі ў кучы набярэцца воз 10-15 матар'ялаў, да іх далучаюць адзін воз гною, пермешваюць і паліваюць гнаёваю жыжкай. Пасьля гэтага ў кучы пачнецца гніеньне матар'ялаў з пераходам іх у зямлістую чорную масу. У такім выгляду кампост гатоў да ўжываньня. На дзесяціну сенажаці патрэбна яго 25-30 воз. Уплыў кампосту на ўраджай сена прымецен 3-4 гады.

*Гнаёваю жыжкаю* лепш угнойваць сенажаці вясною і ў хмарны дзень. На дзесяціну патрэбна 30-40 бочак гнаёвае жыжкі, але перад

гэтым разьведзенай вадою (вядро на вядро). Вельмі добра пасьля ўгнаеньня жыжкаю сенажаць прабаранаваць. Уплыў гнаёвае жыжкі цягнецца 3-4 гады.

*Да штучных угнаеньняў* сенажаці належаць фосфарныя (фосфар) і калійныя (калі).

Сярод фосфарных адзначым тамасшлак, маючы 17-18 % фосфарнае кісласты і 30-50% вапны. Вапна тамасшлака вельмі каштоўна на сырых сенажацях і асушаных балотах. На дзесяціну тамасшлака патрэбна 18-36 пудоў. Уплыў тамасшлака да 4 год.

Другім фосфарным угнаеньнем будзе супэрфосфат. Ужываюць яго на глінiстых і суглінкавых сенажацях (на сырых не раіцца). Норма на дзесяціну 12-18 пудоў. Уплыў на ўраджай сена два гады.

*Да калійных угнаеньняў* належыць 30% калійная соль і каініт. 30% соль лепш ужываць на нізкіх і сырых сенажацях, чым на сухадолах. На дзесяціну патрэбна 9-15 пудоў. Расьсейваюць угнаеньне вясной. Уплыў 3-4 гады.

*Каініт* мае 8-12% калі. Ён робіць добры уплыў на ўраджай сырых сенажацяй, асушаных балот і сухадолаў. На дзесяціну патрэбна 15-40 пудоў. Угнойваць каінітам можна ў восень ці вясною.

Ад калійных угнаеньняў павялічваецца лік бабовых траў і зьмяншаецца асакі.

Ужываць парашковыя ўгнаеньні патрэбна адначасова два—калійныя з фосфорнымі; напрыклад, тамасшлак з каінітам ці супэфосфат з 30% калійнаю сольлю.

### Засеў траў.

Пры ўгнаеньні сенажаці вельмі каштоўна рабіць і засеў траў *) Спаўняецца гэта ў два прыёмы. Перш сеюць насеньне буйное й прыкрываюць яго ў адзін сьлед бараною, а далей сеюць дробнае насеньне (канюшына, цімафейка) і прыкатваюць калодкай.

Пятроўскі.

---

## Галаўня ці сажа на збожжы і барацьба з ёю.

Галаўня ці сажа—вялікі вораг земляроба.

У Амэрыцы, дзе вядзецца дакладны учот ураджаю, падлічылі, што гадавы недабор пшаніцы ад мокрае галаўні складае *30 мільёнаў пуд*.. У Нямеччыне, у 1916-17 г. г. мокрай галаўнёю зьнішчана пшаніцы *на 30 проц. ураджаю.* У нас на Беларусі дакладнага учоту не рабілася, але й тут часта можна ўбачыць пшанічнае поле, дзе амаль палова расьлін пабіта сажай. Крыху менш пабіваецца сажаю ячмень і авёс, але й з гэтых расьлін каля 1/10 часткі ўраджаю гіне. У раёне *Жорнаўкі* (Меншчына) мне даводзілася знаходзіць поле проса, большая палова якога была зьнішчана сажай.

Апрача зьнішчэньня ўраджаю зярна, сажа, як прымешка да мукі, вельмі зьніжае яе якасьць. Асабліва гэта належыць да мокрае, ці сьмярдзючае сажы пшаніцы, якая наддае муцэ прыкры *пах гнілых селядцоў.*

---

*) Рэд. Мешаніны траў дзеля сенажаці гл. „Плуг" № 2, стар. 16.

Бачым, якую вялікую страту прыносіць земляробу *галаўня*. Навукаю вынайдзены меры барацьбы з гэтым шкоднікам. Перш над усё даведзена, што прычынаю хваробы зьяўляюцца асобныя грыбкі, якія падобна нязвычайна тонкім ніткам *пранізваюць хворыя расьлінкі*. На гэтых расьлінах *замест зярнят вырастаюць* камкі вельмі тонкага й чорнага пылу. Завуць яго *сажай*. Чорны пыл ёсьць ні што іншае, як споры гэтага грыбка, (галаўні). Спорамі грыбок множыцца. Замест аднаго зярна пшаніцы вырастае да 4-х мільёнаў спор. А нават і адна спора можа заразіць расьліну.




1. **Цьвярдая галоўня ячменю.** Прыметна ў час пасьпяваньня. Сажа закрыта тонкаю абалонкаю. Пры малацьбе яна прыстае да зярнят і разам з імі высяецца на полі й заражае новы ураджай.

2. **Пылавая галаўня аўса.** Хворыя расьліны прыметны у час выплываньня. Сажа разносіцца ветрам і заражае здаровыя каласы. Насеньне з такіх каласоў будучаю вясною дасьць хворыя расьліны.

3. **Мокрая ці сьмярдзючая галоўня пшаніцы.** Прыметна ў час пасьпяваньня пшаніцы. Хворыя зярняты з паверхні шэрыя, а ў сярэдзіне поўны сажы з прыкрым пахам селядцоў. Пры малацьбе сажа прыстае да здаровых зярнят і зараджае ўраджай на другі год.

У часе малацьбы *споры грыбка прыліпаюць* да здаровых зярнят і разам з насеньнем *пападаюць у глебу*. Там яны прарастаюць і заражаюць маладыя расьліны.

*Каб зьнішчыць галаўню*, трэба перад засевам так ці йнакш адрозьніць зярно ад спор або пратруціць насеньне, пасьля чаго споры грыбка не прарастаюць і гінуць. Лепш над усё гэта дасягаецца прамываньнем насеньня растворам формаліну. Формалін прадаецца ў аптэках, а гэтак-жа яго можна атрымаць і ў раёных агрономаў (бяз кошту). Дзеля прамываньня формалін разбаўляюць вадою ў 300 раз. Адмерыць формалін мажліва шклянкаю. Бярэцца1 шклянка формаліну на 5 вёдзер вады, або 1 бутэлька формаліну на 15 вёдзер вады (вядро 30 фун. вады). Аднэй шклянкай формаліну, разьведзенай у 5 вёдрах вады, можна прамыць 40 пудоў зярна.

Прамыўку робяць так: рассыпаўшы зярно кучаю аршына ў $1^1/_2$ вышыні, паліваюць яго растворам формаліну з лейкі праз дробнае сіта. (Калі лейкі няма, насеньне паліваюць растворам праз венік). Адначасова з гэтым перамешваюць зярно лапатай. Калі зярно змочана добра, пакрываюць яго мяшком, змочаным тым-жа растворам, і пакідаюць так гадзіны на 3-4. Далей зярно рассыпаюць тонкім слоем дзе-небудзь у цяні на ветру, сушаць і зараз-жа сеюць. Знача, пратраву насеньня трэба спаўняць перад самым засевам. Такім спосабам можна амаль зусім зьнішчыць сажу. Формаліну патрэбна мала, што робіць гэты спосаб барацьбы з сажаю вельмі танным.

Даражэй пратрава насеньня медным купоросам (сіні камень) Раствор сіняга каменю гатуюць у драўлянай пасудзіне. *На вядро вады бяруць* $^1/_4$ *фунта* крышталаў сіняга каменю.

Дзеля таго, каб сіні камень хутчэй разышоўся, яго лепш разьвесьці з пачатку ў гарачай вадзе і затым уліць у прырыхтаваную драўляную пасудзіну з належным лікам халоднае вады. *Аднаго вядра* раствору хопіць *на 6-8 пудоў зярна*. Насеньне пратручваецца гэтак-жа, як і формалінам, толькі пасьля паліваньня растворам пакідаюць яго накрытым на 12 гадзін. Далей сушаць і сеюць.

Сіні камень у паказанай колькасьці больш ядавіты, чым формалін; з гэтай прычыны на засеў ідзе больш збожжа, бо нейкая частка яго можа страціць усходжасьць.

**М. Медзіш.**

---

# Кідайце трохполку.

Зямля ў нас бедная і малаўраджайная. Пабочных заробкаў мала, а то й зусім няма.

Раней дзеля ўгнаеньня поля пад жыта сяляне куплялі штучныя *угнаеньні* (парашкі). Плацілі па 20-30 фунтаў жыта за адзін пуд угнаеньня. Цяпер-жа гэтыя ўгнаеньні сталі даражэйшымі ды іх і мала.

Як-жа селяніну дапамагчы сабе, як узьняць ураджай?

Агрономы кажуць, што неабходна *бязумоўнае зьнішчэньне стратнай трохпольнае сыстэмы й замена яе на даходнае шматпольле з*

*абавязковым засевам траў на палі,* г. зн. на ўзгорных і скацістых месцах патрэбен засеў чырвонае канюшыны, а на нізкіх *швэдзкае канюшыны,* выкі з аўсом і г. д. На пескавых-жа і супескавых глебах неабходны засевы сіняга ці жоўтага лубіну, пялюшкі, сэрадэлі. Усё гэта можа ўздымаць ураджай да 80-90 пуд. з аднае дзесяціны. Чаму гэта так?



Карэньні лубіну з клубянькамі бактэр'яў.

А таму, што ўсе расьліны, якія засяём мы на палёх, падзяляюцца на дзьве групы—а) адна высільвае з глебы азот, як жыта, пшаніца, ячмень, авёс, лён і інш. і б) другая ўзбагачвае глебу азотам, як усе бабовыя расьліны (канюшына, люцэрна, выка, сэрадэля, пялюшка, лубін, соя, боб, гарох і інш). Бабовыя расьліны пры дапамозе бактэр'яў могуць браць азот паветра й ім узбагачваць глебу. Азот-жа паветра купляць ня трэба. Адсюль зразумела, што калі пры трохпольлі гаспадар сее толькі збожжавыя расьліны,—то яны высільваюць глебу. Зямля з кожным годам усё больш і больш бяднее. Ураджаі зьніжаюцца й даходзяць да 25-30 пуд., а гаспадар прыходзіць фактычна да жабрацтва.



Карэньні сіняга лубіну.

Пры шматпольлі-ж гаспадар апрача збожжа сее на палёх бабовыя расьліны, якія ўзбагачваюць глебу азотам паветра, а пасьля скосу застаўляюць у глебе шмат перагною ад сваіх карэньняў.

Усё гэта й можа падвысіць ураджаі збожжа да 80-90 пуд. з аднае дзесяціны.

Вось чаму ўсе гаспадары й павінны *абавязкова пакінуць стратную трохпольную сыстэму і перайсьці на шматпольле,* г. з. *плодазьмен.* Пры гэтым зямля будзе ўся засеяна й ня будзе пуставаць пад сялянскім папарам.

*Дык дапамагайце, хлебаробы, самі сабе!*

*Уводзьце шматпольле і засеў бабовых расьлін!*
Шматпольнікам зьменшаецца падатак.

Райаграном **Пашкоўскі**.

# Гутарка аб шматпольлі.

II.

Рашучы рух сялянства да новых форм землякарыстаньня гавора, што далей весьці так гаспадарку нельга. Трэба пановаму гаспадарыць, а гэтаму перашкаджае трохпольле. Патрэбна скараціць і пашырыць палосы. Трэба сеяць канюшыну й выку на сена, трэба пашыраць засеў бульбы, гароху, сэрадэлі, лубіну і г. д.

Але-ж зрабіць усё гэта на раскіданых палосках нельга. *Шматпольле* вядзе барацьбу з засевамі збожжа па збожжу, дзе ўраджаі толькі зніжаюцца. Практычныя гаспадары даўно ведаюць, што пасьля канюшыны або лубіну на ўгнаеньне ўсё лепш родзіць і бяз прыбаўкі гною. Падругое, такія расьліны, як корняплоды і бульба, даюць ураджаі ў 3-4 разы большыя, чым расьліны збожжавыя, і з глебы бяруць іншыя матэр'і. Вось чаму корняплоды і бабовыя расьліны паляпшаюць глебу і найлепш падрыхтоўваюць яе да засеву наступных збожжавых расьлін.

Высокія ўраджаі і поўнае скарыстаньне багацьця глебы і ўгнаеньня будзе толькі тады, калі збожжавыя *расьліны будуць чаргавацца з бульбаю ці з сеянымі травамі.* Дасягнуць гэтага магчыма толькі ў правіловым палявым *севазвароту.* Пры такім севазвароту збор збожжа ў першы год мо' крыху й зьменшыцца, але агульны ўраджай гаспадаркі павялічыцца. Гаспадарка атрымае шмат добрага корму (канюшына, бульба, корняплоды), будзе лепш харчаваць сваю скаціну і павялічыць свой даход.

### Які абраць севазварот.

Севазваротаў шмат. Талькі той з іх будзе добрым, які адпавядае запатрабаваньням гаспадаркі. Як прыклад севазвароту на больш шчыльных суглінкавых глебах, дзе расьце канюшына, можна раіць пяціпольле проф. Даярэнкі:

1) Папар чысты *або заняты,* 2) жыта з падсевам *канюшыны* 3) канюшына 2-га году *карыстаньня,* 4) *бульба,* 5) *ярына.* [1]) У гэтым севазвароту канюшыну падсяюць пад жыта цераз год; цераз год-жа і бульба сеецца на бульбянішчу. Магчыма гэты севазварот зьмяніць і так: 1) *Папар,* 2) *жыта, канюшына,* 3) ½ *канюшына 1 г.,* ½ *бульба,* 4) ½ *канюшына 2 г,* ½ *бульба на бульбянішчу,* 5) *ярына.* Пры такім севазвароту канюшына падсяецца штогод на палову ржанога поля. Канюшына сеецца кожны год і дае збор сена больш роўны.

Прыводжу травяна-льняны 6-ці-польны севазварот:
1) *Папар,* 2) *жыта,* 3) *бульба і корняплоды,* 4) *ярына+канюшына,* 5) *канюшына,* 6) *лён.* Калі канюшыны мала, то карыстаюцца ёю 2 г. і тады зьяўляецца ўжо 7-мі польле. Пры жаданьні мець больш жыта, дабра ўзяць наша „сялянскае 6-ці польле“, названае так агрономам С. В. Скандраковым. Гэта 6-ці польле ўтварылася са звычайнае трохпалёўкі: [2])

| | | |
|---|---|---|
| I. { 1. *Папар зялёны.* | II. { 2. *Жыта.* | III. { 3. *Ярына з падсевам канюшыны.* |
| 4. *Канюшына.* | 5. *Жыта.* | 6) *Бульба* |

---

[1]) Лічбы паказваюць паля севазвароту і парадак чаргаваньня расьліны.

[2]) I. II. III.—зьмены трохпалёўкі; 1, 2, 3, 4, 5, 6,—паля шасьціпольля.

Да гэтага севазвароту лёгка перайсьці ад звычайнага трохпольля.

Калі жадана мець $^1/_4$ частку зямлі пад жытам і столькі-ж пад канюшынай, то магчыма ўзяць *каштоўны* 8-мі палёвы севазварот, які ўжываецца шмат якімі сялянамі Магілеўшчыны і Віцебшчыны. Гэта—1) *чысты папар*, 2) *жыта або пшаніца*, 3) *бульба і корняплоды*, 4) *ярына з падсевам канюшыны*, 5) *канюшына 1 год*, 6) *канюшына 2 гады*, 7) *жыта*, 8) *ярына*.

Калі няма выгану, то канюшына на другі год карыстаньня йдзе пад выпас жывёлы, або застяўляюць яе на трэці год дзеля выпасу. У гэтым разе 9-ці польле зьменіцца на 8-мі польле. У кожным севазвароту папар магчыма рабіць занятым, а таксама падсяваць пад жыта ці ярыну сэрадэлю.

На пескавых глебах канюшына не ўдаецца й тут патрэбны іншыя севазвароты як, напрыклад, такое 4-х польле:

1) *лубін на ўгнаеньне*, 2) *жыта*, 3) *лубін на ўгнаеньне*, 4) *ярына*; або: 1) *лубін на ўгнанньне*, 2) *жыта*, 3) *бульба па гною*, 4) *ярына*. На больш-менш палепшаных пескавых глебах мажліва такое 4-х польле: 1) *заняты папар па гною*, 2) *жыта і пажніўны лубін па гною*, 3) *бульба*, 4) *ярына*; або: 1) Бульба па гною, 2) ярына (пшаніца, ячмень). 3) авёс, грэчка, 4) лубін на ўгнаеньне, 5) жыта.

Калі выгадна займацца гадоўляй лубіну на насеньне, дык 3-е поле, гэта знача, авёс і грэчку замяняюць насеньнем лубіна або сеюць яго пасьля жыта (5). У гэтым разе складаецца 6-ці польле: 1) бульба па гною, 2) каштоўная ярына, 3) авёс, грэчка, 4) лубін на ўгнаеньне 5) жыта і 6) лубін на насеньне.

Пры недастачы корму дзеля жывёлы пашыраюць плошчу пад бульбай і падсяюць сэрадэлю пад жыта і ярыну.

Гледзячы на пералічаныя севазвароты, кожны гаспадар, а то й прысёлак ці вёска зможа абраць сабе севазварот.

Абраны севазварот трэба праводзіць у жыцьцё. Дзеля гэтага поле трэба разьмерыць на роўныя палеткі й пачаць падсейваць канюшыну, заняць цэлае поле бульбай і г. д. Аднака, ўсе мерапрыемствы і працу трэба разьмяркоўваць так, каб у 2-3 гады перайсьці да абранага севазвароту. У гэтай справе шмат дапаможа мясцовы агроном.

Агроном **Лайкоў**.

# Якое шматпольле завёў селянін М. Т. Адзерыха.

*(Чырвоны Раткаў, Случчына).*

Гаспадар у маладыя гады служыў парабкам у паноў. Самастойную гаспадарку завёў толькі ў 1918 годзе. Перад гэтым ён гады тры быў у Амэрыцы, а за час вайны бачыў таксама шмат прыкладаў сельска-гаспадарчай працы. Зямля яго супескавая і суглiністая. Сенажаці ў гаспадарцы няма, а ўся полошча—9 дзесяцін.

Селянін Адзерыха адразу завёў чатырохпалёўку гэткага тыпу: 1) *жыта*, 2) *бульба*, 3) *ярына* і 4) *заняты папар*.

Заняты папар складаецца з канюшыны, выкі, гароху, лубіну, лёну й інш. Канюшына падсяецца пад ярыну й карыстаюцца ёю толькі адзін год.

Такім чынам, жыта сеецца пасьля канюшыны і занятага папару, гэта знача пасьля бабовых расьлін. Дзеля вырабу поля маецца параконны плуг, *пружынойка* (драпач), жалезная барана, асыпнік. Глыбіня ворыва да 5 вяршкоў.

*Пад жыта поле* вырабляецца гэтак: пасьля скосу канюшыны ў сыры год поле зараз-жа аруць, а тыдні праз 2 яго пружынуюць. Далей поле барануецца (каб зьнішчыць пустазельле), возіцца гной і заворваецца другі раз. У сухі год па скосу канюшыны поле перш пружынуюць, а праз тыдні 2 аруць.

Поле з-пад занятога папару арэцца толькі адзін раз.

Пад бульбу поле йдзе пасьля жыта. У восень яго абавязкова аруць мажліва глыбей. Вясною поле барануюць і калі патрэбна-яшчэ раз аруць. Бульбу садзяць пад плуг. Дзякуючы добрай апрацоўцы глебы пад бульбу, поле й пад ярыну пераходзіць вельмі добра падгатаваным.

Пры гэтым севазвароту няма пустое зямлі й расьліны ўсе добра прыпадаюць адна за другою (*Сеяць збожжа па збожжу* ніколі не даводзіцца).

Ураджаі гаспадар здымае даволі значныя. Бульбы 1000 - 1400 пудоў на дзесяціну, жыта 60 - 75 пудоў, а канюшыны каля 300 пуд. сена.

Ураджаі бульбы даюць магчымасьць трымаць і жывёлу ў добрым стане. У гаспадара ёсьць кабыла з мясцовых коняй, але палепшана крывёю ардэна. Кароў дзьве, з якіх адна швіцкае пароды важыць пудоў 35. Ад тэй-жа каровы адна цялушка ў 2 гады важыць каля 25 пудоў. Дзенны ўдой каровы зімою фунтаў 25, а летам больш.

У гаспадарцы ёсьць гарод (поўдзесяціны зямлі) і 100 дрэў добрага саду. У гародзе вядзецца *трохгадовае чаргаваньне* расьлін. Гароднiны сабе заўсёды хапае. Капуста й гуркі нават прадаюцца.

**Т. Бародзіч.**

## Лён ў Аршанскай акрузе.

На 1-е студзеня ў акрузе Госторгам куплена 49.082 пуды валакна і 88.162 пуды семя. Акром гэтага мясцовай коопэрацыяй і прыватнымі асобамі куплена й вывезена за межы акругі каля паловы ад паказанае лічбы.

У 1924 годзе было засеяна лёнам у акрузе 6.140 дзесяцін. З гэтае плошчы пры сярэднім ураджаі з дзесяціны 22 пуды валакна й 24 пуды семя павінна быць сабрана: валакна 135.080 пудоў і семя 147.360 пуд.

Прыблізна кал 30% сабранага валакна выкарыстоўвае само жыхарства (40.524 п.), а другая яго частка ў 70 прац. (106.836 п.) належыць да вывазу на рынак.

Як разьмеркаваўся ўраджай семя, бачым з табліцы.

| Куды накіравана семя. | % ад ураджаю. | Колькасьць у пудох. |
|---|---|---|
| Спродана на рынак . . . | 59,8 | 88.162 |
| Насеньне на 1925 г. . . . | 25,0 | 36.840 |
| Можа быць спродана . . | 15,2 | 23.358 |

Калі сярэднюю цану дзеля валакна лічыць 7 руб. за пуд,
а дзеля семя ...................... 1 руб. 20 кап.,
то агульная сума продажу складзе 449.828 руб., ці 49,9 проц. ад усяе сумы сельска-гаспадарчага падатку па акрузе.

Такім чынам, лён захаваў ад вывазу на рынак паўмільёна пудоў жыта й аўса.

Да 1897 году па нашай акрузе лён сеяўся толькі дзеля сваіх патрэб. Але пасьля перасяленьня ў Смаленшчыну і Віцебшчыну латышоў і эстонцаў, прамысловае лёнаводзтва пачала ўзрастаць. Калі раней лён сеяўся на аблогах і пустэчах панскае зямлі, то цяпер яго пачалі сеяць у *яравым палетку*.

У 1912 годзе плошча лёну займала ўжо 8,6 проц. ад яравога кліну, а ў 1917 г.—10,8 проц.

З восені 1917 году з прычыны вайны зьменшыўся збыт валакна, а ад гэтага сяляне пачалі зьмяншаць і засеў лёну. Так, у 1921 г. яго плошча зьменшылася да 2,9 проц. ад яравога кліну.

На гэта зьявішча зьвярнула увагу Дзяржава й пачала прэміраваць тыя гаспадаркі, дзе плошча лёну павялічалася.

З другога боку, павялічэньне засеваў лёну было выклікана й ўзрастаньнем цэн на валакно й семя.

Хістаньне гэтых цэн паказана ў табліцы.

| Год | За пуд валакна плацілі | | | | За пуд семя плацілі. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Жыта | | Аўса | | Жыта | | Аўса | |
| | Пуд | Фунт | Пуд | Фунт | Пуд | Фунт | Пуд | Фунт |
| 1913 | 6 | 28 | 8 | 8 | 1 | 20 | 2 | — |
| 1922 | 3 | 32 | 4 | 28 | — | 20 | — | 28 |
| 1924 | 7 | — | 7 | — | 1 | 20 | 1 | 20 |

Адсюль відаць, што цэны на валакно 1924 г. ў параўнаньні з цэнамі 1922 г. павялічыліся ў 2 разы, а на семя ў 3. Павялічэньне цэн на лён і далей будзе спрыяць павялічэньню пасеўное плошчы.

У Бліжэйшы час на Беларусі трэба імкнуцца падняць ураджайнасьць лёну й сеяць яго ў шматпольным севазвароту. Трэба заводзіць машыны дзеля лепшае апрацоўкі валакна, як мяліцы, трапалкі і г. д.

**Е. Мясьнікоў.**

## Нашы прыродныя багацьці.

Усюды можна пачуць, што Беларусь старонка бедная, бяз прыродных багацьцяў, бяз магчымасьцяй разьвіцьця буйнае прамысловасьці і г. д.

Але-ж гэта ня зусім правіловае ўражаньне. Грунтуецца яно на малым веданьні свае краіны, якая да апошніх часаў нікім не вывучалася. Цяпер-жа Беларусь мае свае навуковыя ўстановы і сваіх навуковых дасьледчыкаў, першыя досьледы якіх выяўляюць перад намі шмат нескарыстаных прыродных багацьцяў.

У працягу якіх-небудзь двух год працы па вывучэньню карысных багацьцяў зямлі, нашы геолёгі знашлі на Беларусі вялікія адклады *чыстых пяскоў* дзеля шкляных гутаў, шмат матар'ялу дзеля вырабу *цэменту*, *кахлі;* вынайдзена шмат бурай *жалезнае руды*, *розных фарбаў*, значныя адклады *бурага каменнага вуглю*; знойдзены гэтак-жа карысныя выкапні й дзеля разьвіцьця нашае сельска-гаспадарчае прамысловасьці.

У мінулым годзе на прасторы Магілеўшчыны знойдзена шмат, так званых, *глаўканітавых пяскоў* і *гліны*, якімі магчыма карыстацца замест *калійных соляй Нямеччыны*. Знойдзена шмат *фосфарытаў*, з якіх на заводах вырабляюць добрае ўгнаеньне—*супэрфосфат*. Каштоўнасьць фосфарытаў дзеля нас яшчэ больш павялічваецца й тым, што ў нас ёсьць вельмі танны й добры спасаб ужываньня фосфарытаў—гэта засеў лубіну. З кожным годам яго плошча ў нас усё пашыраецца. Размолаты-ж *фосфарыт* зьяўляецца вельмі добрым *угнаеньнем пад лубін* і без пераробкі яго ў супэрфосфат. Такім чынам, завораны лубін разам з пажыўнымі матэр'ямі, якія ён забраў з фосфарытаў, становіцца ўгнаеньнем любое расьліны.

Як бачым, лубін спаўняе тую працу, якая звычайна выпаўняецца заводамі.

Адначасова лубін дае ў глебу і азот, г. з. тое ўгнаеньне, якое дае салітра.

З пасьпехам салітру можна замяніць і торфам, якога ў нас нязьлічанае багацьце.

Такім чынам, замест *салітры* ў нас ёсьць *лубін* і *торф*, замест *калійных соляй* ёсьць *глаўканітавы пясок* і *гліна*. Дзеля фосфарных угнаеньняў у нас ёсьць фосфарыты, з якіх магчыма выробляць *супэрфосфат*, ці скарыстоўваць іх непасрэдна праз лубін.

Нашы *падзолістыя глебы* патрабуюць яшчэ і шмат *вапны*, якой у нас занадта многа. Па ўсёй Беларусі ёсьць шмат вапенных адкладаў шмат гліністых вапенных маргелей, крэйды, што таксама магчыма скарыстаць, як вапеннае ўгнаеньне.

Матар'ялы ёсьць. Трэба толькі апрацаваць іх у больш карысныя ўгнаеньні й прыстасаваць гэтыя ўгнаеньні да глеб. А дзеля гэтага патрэбна:

1) Вывучаць адклады карысных агрономічных выкапняў.

2) Вывучыць нашы глебы й прыстасаваць да іх угнаеньні.

У далейшым мы зробім кароткі агляд нашых глеб, патрэбных ім угнаеньняў і апішам магчымасьці ўжываньня нашых прыродных агрономічных адкладаў, як штучных угнаеньняў.

П. Рагавы.

---

# Значэньне с-г. машын і прыладаў.*)

Усе сельска-гаспадарчыя машыны і прылады можна падзяліць на 2 групы. Да аднае групы належаць машыны, павышаючыя вытворчасьць працы і тым зьмяншаючыя каштоўнасьць вырабу. Другая гру-

*Рэд. Стацьця друкуецца з скарачэньнем.

па машын і прыладаў паляпшае якасьць работы. Прыклад, калі павялічваецца вытворчасьць працы. Пры касьбе сенажаці касою на 1 дзесяціну патрэбна тры спрытных касцы; пры касьбе-ж касілкаю 1 рабочы скосіць да 4-х дзесяцін. Тое-ж бачым і пры жніве збожжа. Ручная уборка на 1 дзесяціну патрабуе 6 жней, а снопавязалка з 1 рабочым можа зжаць да 4 дзесяцін. Такім чынам, машыны павалічваюць вытворчасьць працы рабочых пры касьбе ў 12 раз, а пры жніве ў 24-30 раз.



Жатка.

Другі прыклад. Пры малацьбе збожжа цапамі адзін малацьбіт добра стараючыся вымалаціць за дзень 1-1½ капы снапоў, а пры малацьбе малатарняй на долю 1 работніка прыпадае 5-10 і нават 20 коп вымалачанага збожжа, прычым праца больш лёгкая. Адначасова, малацьба малатарняй абыходзіцца й дзешавей чымся рукамі. Пры ручной працы малацьба 1 пуд. збожжа абыходзіцца 10-12 кап., а пры машыннай малацьбе—1-1½ кап.

Вялікае значэньне сельска-гаспадарчых машын і прыладаў падкрэсьлівае й проф. В. Вінер. Ён вылічыў, што пры ручной працы і карыстаньні звычайнымі прыладамі на 1 дзесятіну збожжа траціцца 28 дзён працы рабочага, а пры карыстаньні машынамі добрага ўстройства тая-ж праца можа быць зроблена 1-м чалавекам за 8 дзён.

Прыклад, калі паляпшаецца якасьць работы. Пры апрацоўцы глебы простымі (сваёй работы) машынамі і прыладамі (саха, сабан і г. д.)

ральля выходзіць з вялікімі глыбамі і няроўная, чаму патрэбна яшчэ дадаткова вырабляць поле бараною ці пружыноўкаю.



Пружыноўка (драпачы).

Зусім іншы выгляд мае поле пры ворыве плугам з добраю акладнёю. У такім разе можна атрымаць роўную ральлю і адначасова дасягнуць амаль поўнага перамешваньня глебы як зьверху ўніз, так і знізу ўверх. Вынікам распаду пласта пад уплывам работы акладні на дробныя глыбкі зьяўляецца значная пухлянасьць пласта; прычым ворыва бывае заўсёды роўнае і ў баранаваньні няма ніякае патрэбы.




Плуг з высьцілаючаю акладнёю.

На рыхленьне пласта значны уплыў мае форма акладні. Плуг, акладня якога добра высьцілае (малая ступень рыхленьня), даў дробных глыбак 38 проц., а пры ворыве плугом з акладнёю цыліндрычнай формы, (яна лепш крышыць), дае дробных глыбак да 72 проц. Нядаўна сталі рабіць такія машыны дзеля вырабу глебы, якія крышаць ральлю на 75 проц. і перамешваюць часткі глебы і ўгнаеньня.

Зьнішчэньне сарнякоў на сенажаці пры працы драпачамі з пружыновымі зубамі спаўняецца на 70 проц. у той час, калі звычайныя бароны могуць зьнішчыць тыя-ж сарнякі толькі на 10 %.

Асобнага пабудаваньня нажова-талеркавыя культыватары даюць вельмі добрае якасьці работу пры вырабе дзерваноў нават працаю ў два сьляды. Дзякуючы гэтаму, ўтвараецца ральля з дробна парэзанымі карэньнямі.

Пры машыновым засеву радавым сяўнiком, дзякуючы раўнамернасьці разьмеркаваньня зярнят у глебе, усходы бываюць дружныя, а разьвіцьцё расьлін аднолькавае; ураджай-жа на 10-15 проц. большым, чым пры раскідным засеву.



Нажова-талеркавы культыватар.

Сельска-гаспадарчыя машыны і прылады, акром паляпшэньня работы і зьніжэньня яе кошту, даюць магчымасьць найлепшага разьмеркаваньня працы на працягу году.

Нарэшце сельска-гаспадарчыя машыны і прылады значна палягчаюць працу работніка. Пры машынах абявязкам рабочых зьяўляецца кіраваньне машынай і падача матар'ялу, а ўвесь цяжар работы спаўняецца запрэжанай жывёлаю або мэханічным рухавіком.

У палягчэньні і нават поўным зьнішчэньні цяжкіх умоў сельска-гаспадарчай працы зьяўляецца вялікае значэньне сельска-гаспадарчых машын і прыладаў.

Проф. **Ю. А. Вэйс.**



# САД І ГАРОД

## Як падняць садоўніцтва Беларусі.

У Амэрыцы садоўніцтва роўнапраўная галіна з іншымі культурамі, у нас жа яно мае падлеглую ролю.

А. Бэхтле.

Гэтак адзываўся аб стновішчы пладаводзтва ў сваім краю аўтар нямецкае кнігі „Клімат, глеба і садоўніцтва" А. Бэхтле. Тыя-ж думкі падыходзяць цяпер і да сучаснага становішча садоўніцтва ў нашай Рэспубліцы.

Наш край мае добрыя варункі дзеля паступовага пашырэньня садоўніцтва, як спагадны клімат, шырокія экономічныя мажлівасьці і шпаркае разьвіцьцё сялянскае працоўнае гаспадаркі.

Аб клімаце даволі сказаць, што ў працягу дзесяткаў год навальніцы ня зьнішчаюць у нас пладовыя сады.

Векавыя грушы й яблыні сьведчаць аб тым, што ў нас бяз рызыкі магчыма шырока заняцца садамі. Проста кажучы, калі-б трэба было плянаваць—у якой краіне займацца пладаводзтвам, то можна сьмела сказаць—у паўднёвай частцы Крыму і на Беларусі.

З агульнае плошчы садоў у 15.000 дзесяцін 52% прыпадае ў нас на сялянскія сады, але гэта ўсё садочкі ў 15-30 дрэў. Гандлёвае вартасьці сялянскія сады ня маюць.

Але мы лічым, што гандлёвае садоўніцтва тады кранецца наперад, калі працоўныя сяляне ўцямяць, што пладаводзтва можа шырыцца, як асобная прамысловасьць.

Пладаводзтва вымагае шмат падрыхтоўкі, сьвядомасьці і пераемнасьці. Насьпеўшыя патрэбы зямляробаў у гэтым напрамку трэба здавальняць. Праца дасьледчых садова-гародных пунктаў і організацыя іх у густую сетку, дапамога друку, курсаў і праца езьдзючых спэцыялістых зробяць тое, што лепшыя спосабы тэхнікі, лепшае насеньне, прышчэпы, ягадныя кусты стануць здабыткам шырокага грамадзянства.

Каб уцяміць ідэю пчалярства ў садоўніцтве, трэба зьвярнуць увагу на тыя квітучыя куткі, якія параскінуты дзе-ні-дзе на абшарах Магілеўшчыны, Віцебшчыны, Меншыны.

Паказальныя гаспадаркі, як Качаноўскага у Дрыбінскім раёне (Аршаншчына), а ў Бачэйкаўскім—Мароза й інш., сьведчаць аб вялікай даходнасьці садоўніцтва ў нашых варунках.

М. Бурштэйн.

# Аб садовай гаспадарцы Качаноўскага.

Агроном-пладавод Качаноўскі мае 77 год і сваю садовую гаспадарку вядзе на працягу 50 год (Дрыбінскі раён, Аршаншчына). Цікавы ў Качаноўскага, як заснаваньне пладовае школкі і вывядзеньне новых сартоў, так фармаваньне карон і догляд за садам.

Перш пры апрацоўцы глебы пад школку Качаноўскі адмовіўся ад neравалу, на якім яшчэ і цяпер траціцца часта шмат працы і сродкаў. Карысьці-ж ад neравалу ў нашай акрузе на падзолістых глебах няма. Пры neравале з глыбіні глебы вываРачваецца на паверхню бялёсы слой, які пасьля дажджу і ствараe скарынку на паверхні глебы. Глебу зноў патрэбна рыхліць (траціць сродкі).

Толькі значным угнаеньнем і паступовым паглыбленьнем ральлі можна на падзолах гатаваць глебу пад садовую школку.



Сякатар абрэзваць гальлё на садзе.



Садовая піла.



Садовы нож.

**Зярняты дзеля** школкі Качаноўскі бярэ ад дзікае лясное яблыні. Яблыкі ён рэжа на сечку, адсейвае насеньне, а мякацьцю корміць сьвіньней. З пуда яблык можна мець 1 ф. добрага насеньня.

**Прышчэпку** Качаноўскі заўсёды спаўняе пучком (вочкам), а не паросткам. Прышчэпка пучком лепш прыжывае, а ў будучыне ўжо дарослыя дрэвы ня так баяцца навальніцы. Напрыклад, 12-ці гадовы сад Качаноўскага добра захаваўся, тады як суседнія сады з прышчэпкай паросткам маюць вялікі процант паломаных дрэў.

Прышчэпку пучком Качаноўскі робіць з паўночнага боку, каб захаваць яго ад прыпёку сонца і страты вільгаці.

**Пескавая глеба** пад пладовую школку ня прыгодна, бо тут дзічкі будуць мець доўгае карэньне і вельмі слабыя махрачыкі на канцох.

На суглінкавай глебе Качаноўскі атрымоўвае дзічкі з густымі махрачыкамі на карэньнях.

Усе пладовыя дрэвы з школкі Качаноўскага маюць чысты ствол бяз сукоў і ран, добрую карону і навогул здаровы выгляд.

Уплыў садовае гаспадаркі Качаноўскага на бліжэйшых сялян вельмі значны.

Л. Калер.
(Студ. Горацкага с.-г. і-ту.)

# Як зьнішчаць чарвей на садзе.

На садзе часта й зімою можна бачыць сухія скручаныя лісьця. У гэтых лісьцях, абкручаных павуцінаю, зімуюць маленькія чарвячкі— вусені матыля „баярышніцы". Рана вясною, як толькі стане цёпла, гэтыя вусені зьядаюць на дрэвах цьветныя пучкі, а далей і маладыя лісьця. Здараецца, што вусені зусім агаляюць сад.

Каб вясьці з імі барацьбу, трэба рана вясною зьняць з дрэў усе скручаныя павуцінаю лісьця. Дзеля гэтага лепш мець спэцыяльныя ножны, якія насаджваюць на доўгі кій. Ножнамі адрэзваюць тонкае гальлё разам з сухімі лісьцямі.

За адсутнасьцю такіх ножнаў бяруць доўгую палку з расколам на адным канцы, каб можна было захапіць галіну, і адламваюць яе з гняздом вусеня. Сабраныя лісьця паляць. На маладых дрэвах лісьця здымаюць рукамі.

Праводзячы ўсю гэту працу, на дрэвах можна знаходзіць і гнёзды пярсьцёнкавага шоўкапраду, якія шэрымі колцамі абкружаюць маладое гальлё. Іх здымаюць з дрэва нажом альбо адрэзваюць разам з гальлём і паляць.

**І. Нэйман.**

---

# Рады селяніну.

## Пладовы сад.

Калі ў садзе густыя кароны, то іх працярэбліваюць. У першую чаргу абрэзваюць пасплятаўшыеся і сухія сукі. Сукі і гальлё трэба абразаць каля самага дрэва й ўсе зрэзы замазаць глінаю.

Вельмі патрэбна і ачыстка кары на дрэвах. Ачыстку робяць вясною вялікім нажом або кавалкам ломанай касы. Счышчанае сьмецьце зьбіраюць і паляць, каб зьнішчыць усіх шкоднікаў, якія былі на кары.

Мох на сукох дрэва счышчаюць драцяною шчоткай, а карэньні моху зьнішчаюць растворам сіняга каменя (1 фунт крышталаў на 1 вядро вады).

Дуплы дрэў ачышчаюць долатам, змываюць растворам сіняга каменя і замазваюць глінай. Тое-ж робяць і з усімі шчылінамі на ствалох дрэў.

Вельмі добра вясною ўсе дрэвы пабяліць вапнай (2-3 фунты вапны на 1 вядро вады з дадаткам 1 фунту сіняга каменя).

*Угнаеньне саду.* Глебу ў садзе апрацоўваюць глыбінёю на 4-6 вяр. і ўгнойваюць або толькі пад дрэвамі, або па ўсёй плошчы саду. Першы спосаб лепш ужываць у маладых садох, а другі ў старых. Гной кладзецца на 2-3 аршыны ад дрэва. Пры агульным угнаеньні патрэбна 2400 пудоў гною на 1 дзес. Карысна ўгнойваць глебу сада і гнаёваю жыжкай, але пасьля красаваньня дрэў.

*Як рабіць садовую замазку.* Бяруць 2 фунты яловай смалы, 1 фунт жоўтага воску і 1/2 фунта сьвінога перапушчанага сала. Перш рас пушчаюць смалу, потым паволі прыбаўляюць воску і далей сала. Праз увесь час састаў патрэбна мяшаць, каб не спаліць. Замазка лічыцца гатовай, калі ўсё распусьціцца.

### Гарод.

Глеба гароду павінна быць мягкая, даволі вільготная і пагнойная. Належная глыбіня культурнага пласту глебы дасягаецца паглыбленьнем апрацоўкі і пабудаваньнем *гародных град*. Вясною глебу аруць ня звыш 4-х вяршкоў і ўсьлед барануюць.

*Угнаеньнем гароду* зьяўляецца гной, кампост і мінэральныя парашкі—чылійская салітра і калійная соль. Вясною кладуць толькі добра перапрэўшы гной.

На 1 квадратны сажань гароду патрэбна 1-2 пуды гною. Пры ўгнаеньні кампостам ці мінэральнымі парашкамі іх рассыпаюць на паверхні град вясною і барануюць граблямі.

— На глебах сырых і халодных грады робяць вышынёю 6-8 вяршкоў, а на сухіх месцах—нізкія і на ўзроўні поля. Шырыня град павінна быць $1^1/_2$-2 аршыны, а даўжыня да 30 аршын.

— У гародзе вельмі каштоўна трымацца севазвароту, Дзеля гэтага, плошча гароду дзеліцца прыкладам на 3 часткі, а расьліны на 3 групы.

1. Капуста, салата, бручка, гуркі й інш.
2. Морква, буракі, рэпа, рэдзька.
3. Гарох, фасоля, боб.

Першы год усю плошчу трэба ўгноіць. На другі год і далей ужо ўгнойваецца толькі вучастак, дзе будуць расьліны з групы капусты. На кожным вучастку пасьля капусты сеецца другая група расьлін, а на трэці год—3-я (гарох, фасоля, боб).

К. Х.

---

## Кіла капусты.

У ліпені і жніўні месяцах амаль на кожным гародзе, дзе садзяць капусту, можна бачыць, як некаторыя расьліны капусты амаль зусім не растуць. Лісьце іх, асабліва ніжняе, жоўкне і павісае, качаны не завязваюцца. Калі такую расьліну капусты паволі пацягнуць, то яна лёгка вырываецца з карэньнямі. Карэньні-ж у такой капусты адрозьніваюцца ад здаровых. Здаровая капуста мае галоўны корань, ад якога тонкія і доўгія бакавыя карэньні распаўсюджваюцца ў глебе. У хворай капусты бакавыя карэньні кароткія і ўздутыя, а на галоўным корані зьяўляюцца наросты велічынёю з кулак, а то і больш.

Зразумела, што такімі карэньнямі капуста ня можа трымацца добра ў зямлі, а гэтак-жа яна ня можа здабываць ў глебе і перадаваць лісьцям пажыўныя сокі, з чаго расьліна чахне і прападае.

Хвароба гэта вядома даўно пад назвай „кілы" і ў некаторыя гады яна прыносіць значны урон. Напрыклад, у 1876 годзе падлічылі, што ў ваколіцах аднаго Ленінграду ад гэтае хваробы гароднікі мелі страты прыблізна на 200 тысяч рублёў. У дажджлівыя гады і асабліва на нізкіх месцах гэтая хвароба значна пашыраецца.

На абшарах Беларусі, па маім наглядам, капусная кіла зьяўляецца звычайнай хваробай. *) Расійскі вучоны М. С. Варонін сьведчыць, што

*) Рэд. Па абсьледаваньням Дарогіна і Ячэўскага капусная-кіла на гародах Беларусі вельмі пашырана. У шмат якіх мясцовасьцях сяляне адракаліся гародаў. Здаралася, што яны ня чулі аб хваробе капусты і ня ведалі спосабаў барацьбы з ёю.

прычынай хваробы зьяўляецца асобны грыбок. Ён такі маленькі, што яго магчыма ўбачыць толькі праз мікраскоп. Гэты грыбок пранікае ў жывыя карэньні капусты, там множыцца і выклікае раней апісаныя наросты і бародаўкі. Праз нейкі час грыбок у сярэдзіне кораня капусты дзеліцца на бязьмерны лік, *так званых спораў*, якія ў грыбоў зьяўляюцца нібы насеньнем. Споры абкружаны тонкай абалонкай і, прарастаючы, яны даюць зноў такі самы грыбок. Хворыя карэньні скора гніюць, а зьмешчаныя там споры пападаюць у зямлю і разносяць заразу на здаровыя расьліны. Споры грыбка могуць ляжаць у зямлі на працягу 5 год і ня трацiць усходжасьці.

Акром капусты гэты грыбок заражае рэпу, бручку, рэдзьку, а гэтак-жа і розныя сарнякі з сям'і капусных (сурэпку, дзікую рэдзьку і інш.).


Рэпа хворая капуснаю кілой.

Цяпер, даведаўшыся з чаго вынікае гэтая хвароба, лёгка зразумець, якім чынам ад яе бараніцца.

1) Не садзіць капусту на *нізкіх і сырых месцах.*

2) Да пасадкі агледзіць карэньні расады і выкінуць расьліны з падазронымі, патаўсьцеўшымі карэньнямі. Таксама трэба наглядаць за капустаю і пасьля пасадкі; расьліны з жоўтымі і вяльмі лісьцямі *вырываць, а качарыжкі паліць.* Ні ў якім разе нельга кідаць качарыжкі ў гной, дзе споры грыбка адчуваюць сябе добра, а далей з гноем пападаюць у глебу і заражаюць яе.

3) Калі глеба гароду заражона кілою, то на працягу 6 год ня можна садзіць там капусту, але можна садзіць бульбу, сеяць гарох і другія расьліны, якія не хварэюць кілою. На працягу 6 год споры грыбка трацяць жывучасьць. Пры пладазьмене неабходна часта выполваць усе сарнякі, асабліва з сям'і капусных, бо й іх карэньні паражае кіла, і тым сарнякі прадоўжаць жыцьцё заразы ў глебе.

2) Асабліва пільна трэба выбіраць зямлю дзеля расадніку. Ляпей за ўсё зямлю браць з тых вучасткаў, дзе капуста не садзілася шмат год.

5) Трэба памятаць, што споры грыбка разам з зямлёю могуць прыстаць і да машын апрацоўкі глебы (плуг, барана, рыдлёўка). Каб не разносіць заразу, усе машыны і прылады, якія ўжываліся дзеля апрацоўкі глебы на заражоных вучастках, *трэба апаліць на агні, ці памыць і апарыць варам.*

6) Глыбокае ворыва заражоных вучасткаў таксама нішчыць заразу; яно карысна тым, што споры пападаюць на значную глыбіню і вясною не прарастаюць.

7) Споры грыбка кілы можна зьнішчыць і гэтак, калі да пасадкі капусты поле паліць слаба разбаўленым формалінам.

Гэтаю мерай барацьбы можна карыстацца скарэй у расадніку, чымсь на гародзе, бо яна даволі дарага каштуе. Формалін можна дастаць у кожнай аптэцы. Гандлёвы формалін трэба разбаўляць вадою прыблізна 1 бутэльку на 15 вёдзер вады.

**М. Медзіш.**

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

## Паказальнае кармленьне кароў.

Шмат каму з сялян даводзілася бачыць, як праводзіцца паказальнае кармленьне кароў. Гэтым агрономы хочуць паказаць сялянам, што правіловае кармленьне скаціны праводзіцца проста, а малака даюць больш і нашы сялянскія каровы.

Спаўняецца кармленьне гэтак: у некалькіх гаспадароў выбіраецца 4—5 кароў. Каровы павінны быць здаровымі, 3—4 месяцаў пасьля 2—5 ацёлу. Каровы застаюцца на сваіх месцах, толькі хлявы прыводзяцца у парадак: пацепляюцца, робяцца кармушкі і вокны. З пачатку дзён 5—7 каровы кормяцца, як карміліся і раней, толькі вядзецца запіс харчоў і атрыманага малака. Пасьля 5—7 дзён пераходзяць на кармленьне па нормам.

У складаньні кармовых норм карыстаюцца кармовымі адзінкамі. Кармовая адзінка—гэта мерка спажыўнасьці кожнага корму. Кармовая адзінка складаецца—з $^{1}/_{3}$ фунта макухі, $^{1}/_{3}$ фунта высевак і $^{1}/_{3}$ фунта мукі, а па спажыўнасьці раўняецца 1-му фун. аўса. Гэтак жа практыкай даказана, што замест 1-й кар. адзінкі можа быць скормлена іншых кармоў у ліку:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| $^{3}/_{4}$ | фун. | макухі | 4— 5 | фун. | бульбы |
| $1\,^{1}/_{4}$ | „ | высевак | 4— 5 | „ | мякіны |
| 1 | „ | мукі | 9—10 | „ | буракоў |
| 2—3 | „ | канюшыны | 10—12 | „ | турнэпсу |
| 3—4 | „ | сена | 4— 5 | „ | саломы |

Гэтак жа навукай і практыкай вынайдзена, што на кожныя тры пуды жывое вагі ці на кожныя тры фун. малака карове патрэбна даваць па 1 кармовай адзінцы.

Цельнай карове ў першыя 3 месяцы даецца на цялё $^{1}/_{2}$ кармовай адзінкі, у наступныя 3 месяцы—1 карм. адзінка, а праз увесь апошні час—$1\,^{1}/_{2}$ карм. адзінкі.

Такім чынам, карове вагою ў 18 пудоў з удоем 15 фун. малака, трэба даць корму на 11 карм. адзінак (6+5).

Трэба старацца, каб у склад корму ўваходзіла сена, салома і мякіна ў ліку 1 фунт на пуд жывое вагі каровы, буракі ад $^{1}/_{2}$ да $1\,^{1}/_{2}$ п. і бульба да $^{1}/_{2}$ пуда. Асабліва каштоўна макуха (1,2,3 фун.). Макуха пры цане 70 кап.—1 рубель за пуд лічыцца больш таннай ад сена, бо 1 кармовая адзінка ў сене каштуе 4 кап., а 1 кармовая адзінка ў макухе каштуе $1\,^{1}/_{3}$—$1\,^{7}/_{8}$ кап., у буракох $1\,^{1}/_{2}$ кап.

Вось галоўныя правілы і рахункі кармленьня. Пры гэтым неабходна падлічаць, сколькі карова з'ела і сколькі дала малака. Кошт корму і малака вызначыць у якім разе малако каштуе менш. Такім парадкам сяляне і могуць паляпшаць кармленьне сваіх кароў.

У мінулым годзе Комісарыятам земляробства былі адмяжованы сродкі на паказальнае кармленьне, галоўным чынам на куплю макухі, корняплодаў і на утрыманьне скаціны. У № 2 „Плуга" зьмешчаны некаторыя вынікі і рахункі. Паказальнае кармленьне павялічыла колькасьць малака ў 1½—2 разы, а кошт 1 фун. малака з 3 кап. зьнізіўся на 1½ кап.

Гэтыя прыклады кажуць аб значнай карысьці кармленьня кароў па вазе й удою. Гэтак жа яны сьведчаць і аб тым, што сярод сялянскіх кароў ёсьць шмат надта добрых і малочных. Калі у нас зьявяцца контрольныя саюзы, то будзе поўная магчымасьць пазнаць лепшых кароў, раздойваць іх і адбіраць племя. **П. Ластоўскі.**

## Злучка і падбор коняй.

У далёкія часы коні былі дзікімі і вадзіліся табунамі. Злучка ў той час, вядома, была натуральная, вольная. Кабылы пакрываліся тымі жарабкамі, якія бралі верх у барацьбе, гэта знача, найбольш здаровымі. Такім чынам, адбываўся натуральны падбор, у выніку якога зьяўлялася моцнае і здаровае племя.



Тып сялянскай кабылы. ½ крыві рысака.

З пераходам чалавека да грунтоўнага сельска - гаспадарчага жыцьця, яму прышлося трымаць жывёлу каля сябе, здабываць ёй корм і нават цікавіцца яе разьвядзеньнем. Чалавек пачаў выбіраць жарабкоў дзеля прыплоду і тым самым стаў на шлях вывядзеньня пароды. Вольная злучка жывёлы захавалася да нашых часоў у стэпавых народаў—калмыкаў, кіргізаў, башкіраў і інш. Усё-ж культурныя народы перашлі да ручное злучкі. Апошняя дае магчымасьць падабраць найбольш адпаведнага жарабка і прыстасаваць жарабеньне кабылы да пажаданага часу. Пры ручной злучцы гаспадар можа быць пэўным у здароўі жарабка і кабылы, а гэтак-жа забясьпечваць жывёлу ад выпадкаў калецтва.

Чым-жа павінен кіравацца гаспададар, выбіраючы жарабка ці кабылу? Жарабок павінен быць цяжэйшым за кабылу ня больш, як

у $1^1/_2$ разы, а ростам вышэй вяршкі на 2. Трэба цікавіцца, каб жарабок быў мцны, жваовы і ня злы; ён павінен мець здаровыя, роўныя ногі, гладкія капыты, ня цяжкую галаву, роўную сьпіну, стромкія рэбры і шырокія грудзі.



Норвэг, жарабок. Жаданы тып рабочых коняй.

З парод, якія ў нас на Беларусі найбольш падыходзяць дзеля паляпшэньня мясцовых коняй, зьяўляюцца арлоўскі рысак, бэльгійскі цяжкавоз (ардэн) і фіна-норвэг.

Кабыла павінна быць клапатлівай і малочнай маткай, з шырокім крыжам і вялікім жыватом. Набываць кабылу лепш з жарабём. Толькі ў гэтым выпадку можна быць пэўным у здольнасьці кабылы да жарабеньня.

Коні на Беларусі ў большасьці растуць доўга і таму пушчаць у злучку жарабкоў і кабыл раней 4-х г. узросту ня варта. Злучку прыстасоўваць гэтак, каб жарабеньне адбылося ў сакавіку ці красавіку месяцах. Тады жарабё да зімы здолее падрасьці і ўсталець.

Прыпушчаюць кабылу да жарабка раніцай ці вечарам, а далей прыводзяць яшчэ на 8-9 дзён. Пакрытую кабылу ня трэба ганяць ці біць, як гэта памылкова робяць некаторыя гаспадары. Пасьля злучкі і жарабка, і кабылу трэба праводзіць.

Вэтэрынар **Дыяконенка.**

---

# Мяса-сальны і сальны выкарм сьвіньней.*)

Мяса-сальны выкарм адрозьніваецца ад мяснога тым, што падсьвінкам, якія да 5-6 месяцаў карміліся па нормам мяснога выкарму, павялічваюць дачу кармоў; прычым павялічваюць ня збожжа, а бульбу, буракі й інш.

Кармовыя нормы пры мяса-сальным выкарму такія:

| | | | |
|---|---|---|---|
| падсьвінку жывое вагі | 150-200 фун. | трэба даць | $6^3/_4$—9 ф. зярна. |
| „ „ „ | 200-250 „ | „ „ | 9—$11^1/_4$ „ „ |
| „ „ „ | 250-300 „ | „ „ | да 12 „ „ |

Цяпер возьмем прыклад. Падсьвінак важыць 200 фунтаў; яму згодна паданых вылічэньняў трэба даць 9 фунтаў зярна. Такому-ж падсьвінку пры мясным выкарму трэба даць толькі 7 фунтаў зярна. Розьніца ў 2 фунты, ці дзьве кармовых адзінкі, якія пры мяса-саль-

*) Рэд.—Гл. № 2 „Плуг“

ным выкарму дадаюцца кармамі, як бульба, буракі й інш. Ува ўсім іншім складаньне норм такое-ж, як і пры мясным выкарму.

Знача, $^3/_4$ корму ад 7 фунтаў зярна трэба даць збожжавымі кармамі, а рэштку корму, гэта знача $^1/_4$ ад 7 фунтаў і дадаткў 2 фун., даюць у зярне, што разам складае $3^3/_4$ кармовай адзінкі. Такім чынам, падсьвінку ў 200 фунтаў трэба будзе даць мукі рознае $5^1/_4$ ф., бульбы 12 фунтаў (3 кармовых адзінкі) і буракоў 6 фунтай ($^3/_4$ карм. адзінкі).

Сальны выкарм цягнецца ня менш 4-5 месяцаў. На працягу гэтага тэрміну характар кармленьня паступова мяняецца і дзеліцца на 3 пэрыоды. 1-шы пэрыод завецца закармліваньнем і прадоўжваецца каля 2-х месяцаў. 2-і поўнае выкармліваньне на працягу 1 месяцу і 3-ці—зярністы, які цягнецца ня больш 3-х тыдняў.

У першым пэрыоду выкарму патрэбна даваць корму $4^1/_2$ проц. ад жывое вагі сьвіньні, прычым $^2/_3$ патрэбных кармоў даецца збожжам, мукою і г. д.

У другім пэрыоду корм даецца ўжо 3 $^3/_4$% ад жывое вагі, а збожжавага корму даецца $^3/_4$.

У трэцім пэрыоду корму даецца $2^3/_4$% ад жывое вагі, але корм выключна збожжавы і добрае якасьці.

Характэрныя адзнакі пэрыодаў выкарму ў тым, што сьвіньням з пачатку выкарму даюць менш каштоўныя харчы, калі яны ахвотна ядуць усё; у другім жа пэрыоду сьвіньням даюць ужо лепшы корм, павялічваючы лік збожжавых кармоў. У астатні пэрыод выкарму і самы кароткі па тэрміну даюць выключна зярно і муку. Смак сала ад гэтага паляпшаецца. Найлепшым кормам у гэты час будзе ячменная мука.

Што належыць да памяшканьня, дзе выкармліваюць сьвіньней, то яно павінна быць цёплым, але ня душным. У халодным памяшканьні патрэбна больш корму на прырост 1 фунту сьвініны. У душным памяшканьні сьвіньні дрэнна ядуць, а знача, і дрэнна аплачваюць корм. Сьвіньня найлепш сябе адчувае пры 10-12 градусах цяпла.

Пры выкарму неабходна пільна сачыць і за чыстатою карытаў, бо з бруднай пасуды, дзе застаецца і пракісае корм, сьвіньні не ахвотна ядуць. Загэтым, як пры гадоўлі, так і пры выкарму, кожны раз пасьля кармленьня сьвіньней карысна вычышчаць карыты ад рэштак корму, а раз у тыдзень і мыць іх гарачай вадою.

**Агроном Цімашкоў.**

---

# Дасягненьні амэрыканцаў у малочнай жывёлагадоўлі.

50-70 год таму назад малочная жывёлагадоўля Паўночнае Амэрыкі была ў дрэнным становішчы. Цяпер-жа яна займае другое месца па велічыне сярэдніх удоеў кароў і першае месца па велічыне ўдоеў ад паасобных кароў. Паказваем сярэднія ўдоі кароў за год у краінах найбольш організаванае жывёлагадоўлі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Галяндыя . . . . | 190 пуд. | Англія . . . | 150 пуд. |
| Паўночн. Амэрыка . | 185 „ | Данія . . . | 140 „ |
| Швэйцарыя . . . | 175 „ | Нямеччына . | 100 „ |

СССР (Яраслаўская парода) 50 пудоў.

Амэрыканцы карыстаюцца цяпер дзьвюма пародамі малочных кароў—галяндзкае і джэрзейскае (з Англіі). На 100 галоў малочных кароў на долю галяндзкае пароды прыпадае 55 штук, на долю джэрзейскае—35 і толькі 10 штук іншых парод.

Дзякуючы добрым спосабам выхаваньня кароў, амэрыканцы за кароткі час гэтыя пароды давялі да высокае малочнасьці, чаго ня маюць гаспадары Галяндыі ці Англіі.

Амэрыканцы лічуць, што калі іх карова мае гадавы ўдой 80 п. малака, то яна прыносіць гаспадарцы ўтрату на 35 рублёў. Карова-ж з удоем 110 пудоў толькі аплачвае корм і догляд, з удоем 140 пудоў дае прыбытку 20 руб.; з удоем 190 пуд. дае прыбытку 60 руб., а з удоем 410 пуд. дае прыбытку 250 руб.

Каб мець ад кароў найбольш малака, а разам і найбольшую карысьць, амэрыканцы працуюць увесь час над дзьвюма пародамі—галяндзкай і джэрзейскай. Каровы галяндзкіх парод буйныя (каля 40 пудоў вагою), джэрзейскія далёка меншыя і важаць 25-27 пуд.

Пры вывядзеньні кароў з высокай малочнасьцю амэрыканцы акром добрага ўтрыманьня іх (цяпло, чыстата, добрае харчаваньне), у значнай меры карысталіся і карыстаюцца вывучэньнем кароў і быкоў—першых на малочнасьць, а быкоў на лік і гатунак цялят.

Вывучэньне кароў і быкоў робіцца прыкладам у такім парадку: калі ў гаспадара ёсьць добрая карова, то ён паведамляе аб гэтым контрольны саюз (аб'яднаньне гаспадароў, займаючыхся гадоўляй малочнае жывёлы), які на працягу аднаго месяца робіць контрольныя ўдоі гэтай каровы і ўжо пасьля гэтага лепшых кароў вылучае і перасылае іх у вышэйшую організацыю з тым жа напрамкам. Там гэтак-жа робяць досьледы на працягу двух тыдняў, і лепшых па малочнасьці кароў перасылаюць яшчэ ў адну організацыю. Астатняя ўстанова лепшых кароў па ліку і якасьці малака залічвае у чэмпіёны (г. зн. узяўшых верх). Аб гэтым-жа робяць і абвесткі, што такая та карова дае найбольш малака.

Такім чэмпіёнам на працягу 7 год (1915-1922) была карова галяндзкае пароды пад назвай „Дотчэсс Скілак Ормссі", якая давала 1.010 вёдзер малака ў год ці 35 пудоў масла (вядро малака важыць 31 фунт). У 1922 годзе карова тэй жа пароды „Мей Воккер-Олі" дала 1.110 вёдзер малака ці 38 1/2 пудоў масла. У апошнія гады такім чэмпіёнам стала карова „Сегіс Пьетертжэ" з гадавым удоем 1.330 вёдзер малака.

Што датычыць джэрзеек, то яны лікам даюць менш малака, але больш тлустага і чэмпіёнам гэтай пароды кароў цяпер лічыцца карова „Лец-Іота" з гадавым удоем малака 630 вёдзер ці 34 пудамі масла.

Такой карове штодня даюць 37 фун. мешаніны з макухі, высевак і аўсянкі, 70 фун. корняплодаў, 25 фун. квашанага корму і ўволю сена люцэрны. Кормяць кароў 4 разы ў дзень з дадачай 1/4 фунта солі і жмені вугля. Летам каровы пасуцца па люцэрне ці канюшыне і акром гэтага іх падкармліваюць мешанкай з высевак і макухі. Запушчаюцца каровы на тэрмін ад 2 тыдняў да 2-х месяцаў.

Быкоў амэрыканцы таксама вывучаюць і гэта мае вялікае значэньне. Найлепшым быкам лічыцца такі, ад якога бывае найбольш цялят і лепшага гатунку. Чэмпіёнам з быкоў быў джэрзейскі бык „Голь-

дэн фэрн Нобель“, які даў 51 карову і 35 быкоў, атрымаўшых назву „чэнпіёна“.

Заўважым, што ў нас, а гэта-жа і па другіх замежных краінах, быкам карыстаюцца ад 4-6 год. У амэрыканцаў-жа, дзякуючы добраму догляду і разумнаму скарыстаньню, быкі пушчаюцца да кароў і ў 12-15 год.

З усяго робім вынік, што жаданьне амэрыканцаў атрымаць найбольш карысьці ад сваіх кароў прымусіла іх зьвярнуць вялікую увагу на малочную жывёлагадоўлю. Разумным падыходам да справы яны атрымалі нячуваныя удоі малака, якімі аплачваецца самае дарагое ўтрыманьне жывёлы. **А. Панін.**

# Глістовая хвароба авец.

Глістовую хваробу авец выклікаюць паразіты-глісты, якія жывуць у пячонцы й жоўці авец. Належаць гэтыя паразіты да смактуноў, з якіх найбольш шкодзен пячонкавы двурот.

Сяляне глістовую хваробу авец завуць „матыліца“. Апрача авец пячонкавая гліста сустракаецца яшчэ ў рагатае жывёлы; менш у сьвіньней, коняй, аслоў, коз, вярблюдаў, трусоў, зайцаў і нават чалавека.




Пячонкавы двурот авец. Яйкі двуроту (павялічаны).

Зародак двуроту ў вадзе і сьлімак.

Форма двуроту ці матыліцы падобна на семя гарбузоў. Даўжыня яе ад 2 да 4 сан., а шырыня ад 2 да $2^1/_2$ сан. Жыцьцё двурота вельмі цікавае.

Жывучы ў пячонцы авец, двурот кладзе там і свае яйкі, якія цераз пратокі жоўці і далей разам з калам выходзяць на двор. У сырым месцы яйкі застаюцца жывымі каля 6 месяцаў. Лепшым мейсцам дзеля яек будзе стаячая вада, мокрыя поплавы, тарфяныя і балотныя сенажаці і г. д. Тут яйкі праз 4-6тыдні даюць зародкі, якія плаваюць у вадзе і шукаюць сабе асобнага сьлімака. Зародкам неабходна пралезьці ў цела сьлімака і там нейкі час жыць і карміцца. Праз тыдні 2-3 кожны зародак прымае ўжо форму мяшэчка, з якога выходзіць 20-25 *новых хвастатых зародкаў.* (Мал. на 32 стар.). Хвастатыя зародкі пакідаюць цела сьлімака і хвіліны 2-3 плаваюць у вадзе, каб прыча-

піцца да якое-небудзь травы, на якой яны скручваюцца ў маленькі камок з абалонкаю. У такім выглядзе зародак двуроту чакае пакуль *авечка ня зьесьць* яго *разам з травою*. Далей у *жываце авечкі* зародак двуроту раскручваецца і *праходзіць у пячонку*. Там ён вырастае ў сталага двурота, пачынае смактаць пячонку авечкі і зноў класьці яйкі.



Хвастаты зародак двуроту пакінуўшы цела сьлімака, а на траве скручаны ў камок.

Дзеля авечкі хвароба пачынаецца ў той час, калі ў жывот яе пападуць скручаныя зародкі (кастрычнік, лістапад, сьнежань месяцы). У той час авечка выглядае яшчэ здаровай і толькі ўважлівы гаспадар можа прымеціць яе хваробу. У сьнежні і студзені месяцах хворыя авечкі ўжо дрэнна ядуць і вельмі кідаюцца да вады. Воўна іх робіцца сухой і лёгка вырываецца; авечка хутка худнее і з хрыпотамі дыхае. У пачатку лютага надыходзіць поўны заняпад сіл; авечка есьць мала, на жываце зьяўляюцца ацёкі—авечка гіне.

Пячонка авечкі пасьля гэтае хваробы павялічваецца і пры разрэзе можна бачыць шмат двуротаў (матыліцы).

Страты ад гэтае хваробы вельмі вялікія, а асабліва пасьля дажджлівага лета. Балоты і тарфянікі Беларусі яшчэ больш дапамагаюць разьвіцьцю глістовае хваробы авец. Напрыклад, у вёсцы Забашэвічы Барысаўскага раёну ў лютым месяцы г. г. з 600 авец захварэла 300, з якіх падохла 250. У 1903 годзе ў некалькіх губэрнях Расіі налічвалася хворых авец 44 тысячы, з якіх падохла 31 тысяча.

Як-жа засьцерагчы авец ад гэтай хваробы?

Пэўнага лячэньня яшчэ няма. Лепш за ўсё зьберагаць авец. Дзеля гэтага раіцца:

1) асушаць балоты, раўчукі і лужыны з стаячай вадой, калі яны блізка да выгану;

2) не выганяць авец (асабліва маладых і ягнат) на мокры выган;

3) мяняць выган дзеля авец на выган з-пад коняй;

4) гной з-пад авец вывозіць толькі на сухія глебы, каб дождж ня змываў яек-паразіта;

5) паіць авец чыстай вадою з хутка цякучых рэчак;

6) зімою карміць авечак сенам з сухадолаў. Шмат гаспадароў гэта разумеюць і дзеля авец запасаюць мурожнае сена;

7) добра ў яськлі авец класьці кавалкі каменнай солі; калі каменнай солі няма, то можна саліць корм. Соль паляпшае страваваньне авец і часткаю зьнішчае паразітаў.

Барацьба з двуротам авец (матыліца) зьяўляецца агульна-дзяржаўным пытаньнем і каб мець пасьпех, трэба ўцягнуць у гэту барацьбу ўсё зацікаўленае сялянства і культурных працаўнікоў вёскі.

Толькі ў гэтым разе можна дасягнуць жаданых вынікаў.

Вэтэрынар **Серпаў**.

# Мор на сьвіньні.

Мор на сьвіньні вельмі часта пануе па нашых вёсках і з такою вялікою сілаю, што часамі за кароткі тэрмін прападаюць амаль-што ўсе свіньні. Выклікаюць гэты мор, як вядома, заразьлівыя хваробы сярод сьвіньней найчасьцей ўлетку, але трапляецца і ў іншую пару.

Паміж гэтымі заразьлівымі хваробамі сьвіньней адрозьніваюць 3 галоўныя хваробы: *„чырвонку"*, *„чуму сьвіньней"* (кішковую хваробу), так зв. *„сэпцыцэмію"* (грудную хваробу).

Ня так яшчэ даўно ўсе гэтыя хваробы мяшаліся ў адну пад назваю „чырвонка" ад таго, што бадай пры кожнай з іх па скуры хворае сьвіньні йдуць чырвоныя плямы, часамі як-бы зьлітыя бурачным квасам. Але цяпер дасьледавана, што кожная з гэтых трох хвароб самастойная, кожная выклікаецца асобным мікробам і кожная вымагае асобных спосабаў змаганьня.

Дзеля гэтага мы і лічым патрэбным азнаёміць гаспадароў з кожнаю з гэтых хвароб паасобку.

### 1. Чырвонка.

Чырвонка вельмі пашыраная сярод сьвіньней заразьлівая хвароба. Звычайна зьяўляецца яна ўлетку, гарачынёю, а пад восень спыняецца. Найболш хварэюць чырвонкаю сьвіньні ад 3-х месяцаў і да году; парасяты і больш старыя сьвіньні чырвонкаю хварэюць даволі рэдкі.

*Прычына.* Чырвонка выклікаецца асобным шкоднікам, чужаедам, якіх вучоныя завуць *мікробам*і і якія звычайна зьяўляюцца прычынаю заразьлівых хвароб, як у людзей, гэтак і ў жывёлы. Гэтыя мікробы знаходзяцца ў крыві хворых сьвіньней. Заражаецца імі сьвіньня праз параненую скуру, або праз кішкі. Найчасьцей зараза разносіцца праз корм і пітво, калі яны забруджаны калам ці мачою хворых сьвіньней. Паша, вуліца, трава, корм,—усё можа быць заражана, і усё можа падтрымоўваць заразу. Вось чаму, калі зараза ўваб'ецца ў гаспадарку, то паўтараецца амаль кожны год, пакуль адпаведнымі спосабамі ня будзе зьнішчана канчаткова.

*Адзнакі.* Хвароба пачынаецца даволі бурнымі праявамі. Сьвіньні адразу трацяць ахвоту да яды, у іх зьяўляецца цеча сьліны, іх нудзіць, сьлізьніца вока чырванее, падскаквае досыць моцная гарачка (да 43°), зьяўляецца млявасьць і санлівасьць; жывёліна хаваецца і зарываецца ў подсьцілку, скрыгоча зубамі; часамі кашляе й ходзіць, як спутаная, часта кульгае на заднія ногі; *скуру*, асабліва на галаве, вушах, жываце *пабівае на чырвоныя плямы*, якія, калі прыцісн*у*ць пальцам, зьнікаюць і ўраз-жа зноў зьяўляюцца. Нарэшце сьвіньня пачынае гнаіць чорным мягкім калам. Сьмерць можа наступіць праз некалькі гадзін ад пачатку хворобы, але звычайна яна надыходзіць праз 2-3 дні. Пасьля хваробы сьвіньня пачынае папраўляцца праз 6-8 дзён. Сьвіньні ў некаторых выпадках застаюцца худымі і дрэнна выкармліваюцца на сала.

*Лячэньне.* Найбольш пэўным спосабам лячэньня зьяўляецца *прышчэпка сыроваткі*, як хворым, так і здаровым сьвіньням.

Гэтая прыштэпка забясьпечвае сьвіньней ад заражэньня чырвонкаю блізка на год.

Каб падсьвінкі не хварэлі чырвонкаю, перад выганам на пашу ўсім ім трэба зрабіць засьцерагаючую прышчэпку проці чырвонкі (спачатку шчэпяць вакцыну № 1, а праз 12 дзён—вакцыну № 2). Пасьля такое прышчэпкі сьвіньні не баяцца чырвонкі. Праўда, каля 10 проц. могуць і пасьля прышчэпкі захварэць.

Проці чырвонкі трэба мець пад рукамі лячэбную сыроватку. Як толькі сьвіньня захварэе чырвонкаю, ёй трэба ўпрыснуць пад скуру у пах 25 альбо 30 куб. сант. лячэбнае сыроваткі проці чырвонкі.

Шчапіць сьвіньней павінен вэтэрынар, а калі яго няма, альбо калі трудна яго запрасіць, то і сам гаспадар павінен ведаць, як з гэтым абыйсьціся і калі трэба зашчапіць сваіх сьвіньней.

## 2. „Чума сьвіньней“ (кішкавая хвароба).

Хвароба гэтая гнязьдзіцца галоўным чынам у кішках сьвіньні.

Спачатку хварэюць чумою і гінуць усе парасяты, а потым пачынаюць хварэць падсьвінкі і дарослыя сьвіньні. Калі завядзецца чума ў якой-небудзь гаспадарцы, то выкараніць яе адтуль бывае ня лёгка. Яна заражае хлявы сьвіньней і трымаецца там гадамі.

Разносу заразы шмат дапамагаюць кірмашы, куды часта вывозяць з хворага гнязда парасят.

За апошнія гады чума апаноўвае нашых сьвіньней часьцей, чымсь іншая заразьлівая хвароба.

*Прычына хваробы*—таксама мікроб. Сьвіньні заражаюцца ім, прымаючы заражоны корм ці пойла або праз подсьцілку, карыта і інш. Асабліва заразьліва мача хворых чумою сьвіньней. Каб канчаткова выкараніць гэтую заразу, найлепш усіх здаровых сьвіньней перавесьці ў другі хлеў, а ў сьвінарнік паставіць цялят.

*Усе адзнакі* хваробы даводзяць, што хвароба гнезьдзіцца часьцей у кішках. Захварэўшыя сьвіньні пакідаюць есьці, альбо стаяць згорбіўшы сьпіну і спусьціўшы галаву. З вачэй паказваецца матэр'я; затым рвоты і панос, *сьвіньні гнояць кравяністым калам, а далей* слабеюць, і на 4-7 дзень гінуць. У лёгкіх выпадках сьвіньні папраўляюцца праз 2-3 тыдні. Паступова зварачваецца ахота да яды спыняецца пранос і ўсе адзнакі хваробы паволі зьнікаюць.

Аднэю чумою сьвіньні досыць рэдка хварэюць; часьцэй да яе далучаецца яшчэ грудная хвароба (сэптыцэмія) і тады хворыя сьвіньні кашляюць, задыхаюцца і гінуць на 8-10 дзень.

Пры ўскрыцьці памёршае сьвіньні на тоўстых кішках знаходзяць вельмі характэрныя для чумы балячкі і струпы.

*Лячэньне.* Самым добрым і захоўваючым сродкам проці чумы лічыцца прышчэпка сыроваткі, якую бяруць ад добра перахварэўшых сьвіньней. Сьвіньні, якія ўжо безнадзейна хворыя, а таксама якія ходзяць рэдкім калам і кашляюць,—прышчапляць безнадзейна, іх варта забіць.

## 3. „Пошасная грудная хвароба сьвіньней“.

### („*Сэптыцэмія*“).

Гэта трэцяя самастойная заразьлівая хвароба сьвіньней. Захварэўшыя сьвіньні маюць адзнакі запаленьня лёгкіх.

Досыць часта гэтая хвароба бывае разам з чумою; асабліва, калі захварэе адразу шмат сьвіньней, тады трэба мецъ на ўвазе чуму, проці якой і ўжываюць тыя ці іншыя сродкі. Ад чумы гэтая хвароба адрозьніваецца тым, што захоплівае лёгкія, а чума, як вядома з папярэднага, захоплівае кішкі. Ад чырвонкі знадворку яна адрозьніваецца тым, што чырвоныя плямы на скуры пры гэтай хваробе зьлёгка прыпухаюць, а пры чырвонцы гэтага прыпуханьня плям ня бывае.

*Прычына* хваробы і тут мікроб, які пападае ў сьвіньню праз лёгкія альбо праз страўныя шляхі.

*Адзнакі.* Захварэўшыя сьвіньні становяцца млявымі, дрыжаць, зарываюцца ў подсьцілку, не ядуць, мучацца смагаю. У хворых сьвіньней бывае цьвёрды кал, утруднёнае дыханьне, кароткі і сухі кашаль, выцяканьне з носу цягучае сьлізі. Гарачка даходзіць да 42° Ц. Сьмерць звычайна наступнае праз 1-2 тыдні. Часамі хвароба пераходзіць у хранічную форму, цягнецца 3-6 тыдняў, і сьвіньні гінуць ад зьнясіленьня.

Пры ўскрыцьці памёршых сьвіньней заўсёды знаходзяць запаленьне лёгкіх, плеўрыт і г. д.

*Пры лячэньні* лепш ужыць засьцерагаючую прышчэпку сыроваткі проці сэптыцэміі.

**Захоўваючыя меры проці мору сьвіньней.**

1. Нова-набытых сьвіньней (асабліва на кірмашы) неабходна вытрымліваць тыдні 3 ў асобных хлявох, пасьля чаго толькі далучыць да сваіх сьвіньней.

2. Непатрэбна ганяць сьвіньней на чужую пашну ці па агульных дарогах, трымаць сьвіныя хлявы ў чыстаце.

3. Калі хвароба ўжо зьявілася, неабходна першых хворых забіць альбо пакінуць іх там, дзе яны захварэлі, а здаровых, разьбіўшы на дробныя групкі, перагнаць у другія месцы.

4. Калі зараза зьявіцца ў агульным стадку, то ляпей усіх сьвіньней вёскі паставіць па асобных дварох і зьвярнуцца да вэтэрынара за паратункам.

5. Дохлых сьвіньней глыбока закопваць на асобных могілках.

6. Усёй грамадой дапамагаць выводзіць заразу, памятуючы, што толькі самадзейнасьць самога насяленьня паможа пазбавіцца ад штогоднага мору сьвіньней.

Вэтэрынар **І. Н. Серада.**

---

# ЗЕМЛЕУСТРОЙСТВО

## Поменьше ломки сельского хозяйства при землеустройстве.

Наибольший расход, который приходится нести селянину при землеустройстве, является расход на перенесение хозяйственных построек на новое место.

Средства селянина-середняка и в особенности бедняка таковы, что он едва может оплатить землеустроительные работы и связанные с ними расходы. Перенести же постройки и устроиться на новом месте, а тем более закупить лес и обзавестись новыми постройками, беднейший середняк, ни тем более бедняк, этого сделать не в состоянии.

Это подтверждает и специальное обследование землеустроенного населения, произведенное Наркомземом. Установлено, что часть населения, землеустроенного в 1922—23 г. г., до сих пор не может осуществить полностью переселения, а переселившаяся часть устраивается крайне медленно и далеко не в выгодных материальных условиях.

Конечно, единственная мера в таких случаях—это предоставить кредит. Однако, если принять во внимание, что до 1924 года кредитования не было, а землеустройство коснулось по Республике общей площади в 569.506 дес. земли (устроено до 81.350 дворов), то нужен немалый капитал, чтобы оказать хоть небольшую помощь уже землеустроенному населению.

При землеустроительных работах в настоящее и ближайшее время наши кредитные органы едва ли смогут кредитовать население в полной мере. Кроме того, принимая во внимание, что кредит должен идти на более *производительные цели*, необходимо землеустроительные работы в дальнейшем *проводить* с *наименьшей ломкой сельского хозяйства* и с наименьшими хозяйственными потрясениями.

*Цель* нашего землеустройства сводится к *хозяйственному устройству* и *приближению земли* к *селянам*. Земля общества собирается по возможности в один или несколько участков, где *отводится* и *устраивается усадебная оседлость* и устанавливается *многопольный севооборот.*

В условиях Белоруссии сравнительно мелкие поселения. Поэтому, *устройство деревни на месте* является более выгодным, как практически, так и экономически.

Вопрос об устройстве мелких поселений на месте по докладу Наркомзема был одобрен V Всебелорусским с'ездом советов и в 1924 г.

частично применялся в Минщине. А сейчас, учитывая экономическую важность этого вопроса, Пленум Ц.К. и IV сесия ЦИК Бел. *также признали важным и необходимым* широкое применение этой системы устройства поселений на месте, если для этого есть подходящие условия.

Хозяйственное устройство на месте населения представляется в *виде поселения*, состоящего примерно от 10 до 50 дворов и имеющих землю недалеко от усадебных мест. В таких случаях, согласно земкодекса проводится оформление прав на землепользование, производится только разбивка земли на поля и полосы по тому севообороту, который здесь решено применить. На *месте оседлости усадебные участки приноравливаются к с.-х. строительному уставу* и, если потребуется, отводятся новые усадебные участки. Переход на новые усадебные участки может производиться постепенно и по соглашению между землепользователями.

*Переселенцам* на новые усадьбы со стороны остающихся *необходима помощь*, как материальная, так и трудовая. Это необходимо для того, чтобы переход и перенос построек на новое место не явился бы для *переселенцев разорительным.*

Когда происходит расселение селения на новые места, *вопрос кому оставаться на месте* столь же важен, если не более, как и устройство на месте. Были случаи, когда назначенный на новое место двор, не мог туда переселиться по своей бедности; напр., *инвалиды, вдовы, сироты* и, *вообще, бедняки*, каких в селении из 200-250 дворов окажется в среднем не менее 30-40 процентов. Они не в состоянии понести такие большие расходы, какие требуются для переноса построек на новые места. В этом необходимо делать отступления от общего правила и оставлять на месте столько дворов, сколько позволят земельные условия и хозяйственное устройство.

При переселении на новые места со стороны землеустроительных органов требуется проявить достаточно чуткости и *классового подхода.* В вопросе переселения и оставления на месте есть момент, где больше всего требуется классовый подход.

В заключение необходимо подчеркнуть два важных обстоятельства. Во-первых—это то, что многие участники землеустройства представляют его только, как переход на новые места (Остатки столыпинского толкования). Мне представляется, что землеустройству сейчас нужно придать *больше хозяйственного устройства на месте*, больше оставления на месте при расселении и *меньше ломки и потрясений для крестьянина. Это лозунг и основа землеустройства* в настоящий момент. Во-вторых, при землеустройстве нужно учитывать экономические возможности, как общества в целом, так и каждого двора (средства селян, кредит, местные условия и т. д.).

Только после этого можно приступить к составлению проэкта землеустройства всего общества в целом и каждого двора в отдельности. Необходимо, чтобы население было в состоянии сделать этот переход быстро, а дальше заняться улучшением и развитием сельского хозяйства.

**П. Ревинский.**

# Новый земельный кодекс.

С 1 апреля 1925 года на всей территории БССР начинает действовать новый земельный кодекс. Хотя в основу его положен прежний кодекс БССР, действовавший в Минщине с 15 апреля 1923 г., однако между ними имеются и отличия.

В новом земельном кодексе точно указано, что в первую очередь в пользование получают землю коллективы, местные безземельные и малоземельные хлеборобы и трудящиеся евреи. Последним земля отводится в первую очередь ввиду того, что до революции они лишены были права владеть и пользоваться землею в сельских местностях.

Переселенцам предоставлено право сдать в аренду на срок не более трех лет бывшую в их пользовании землю, чтобы лучше организовать переселение и чтобы была возможность вернуться, если не удастся обосноваться на новом месте.

Значительно облегчены условия, при которых приговор о землеустройстве считается законным. По прежнему земельному кодексу для этого нужно было, чтобы на сход явилось не менее 2/3 домохозяев и не менее 1/2 всех полноправных членов общества и чтобы явившиеся постановление о землеустройстве вынесли большинством 2/3 голосов. Обычно, домохозяева на сход являлись, а полноправные члены, т. е. все достигшие 18 лет не приходили. Об'ясняется это влиянием стариков и несознательностью молодежи, не считающей себя вправе распоряжаться судьбою хозяйства. Неявка их на сход делала приговор не законным. По новому кодексу на сход должны явиться 2/3 домохозяев и любое число полноправных членов. Приговор о землеустройстве выносится простым большинством голосов и является обязательным для всего земельного общества. В виду важности дела нужно думать, что все, имеющие право голоса на сходе, явятся на него и примут участие в решении вопроса о судьбе своего хозяйства.

До настоящего времени при семейных разделах имущественные и земельные доли членов двора определялись на основании местного обычая. Между тем этот обычай не был надлежаще оформлен. Поэтому разрешение иска о долях имущества при разделе зависело от усмотрения земельной комиссии. Новый кодекс точно определяет долю делящихся по трудовым единицам, и не степенью родства, а заложенным трудом. Труд дает право на землю и добытое на ней имущество. Каждый член двора старше 18 лет без различия пола считается за 1 трудовую единицу, от 12 до 18 лет—за 1/2 трудовой единицы, а до 12 лет—за 1/4 единицы. Так же исчисляются трудовые единицы при обрезке крупных хозяйств и при землеустройстве. Поэтому произвести раздел двора по трудовым единицам будет очень просто. Если же при этом на долю одной из делящихся сторон будет причитаться очень мало земли и хозяйство ее окажется нежизненным, то ей должна быть выделена минимальная норма, т. е. столько земли, сколько причитается на две трудовых единицы.

В целях поощрения коллективизации хозяйства признано, что правила о нормах, установленных для трудовых хозяйств, не применяются в отношении дворов полностью перешедших к общественной обработке земли, но только на время этой обработки. Также разре-

шен выдел из общества той части домохозяев, которая пожелает образовать коллектив.

Наконец, значительно упрощена структура земельного суда. Он состоит из районной земельной комиссии, окружной и особой коллегии высшего контроля при Наркомземе Бел. Районная земельная комиссия разрешает все землеустроительные и спорные земельные дела, сторонами в которых являются отдельные землепользователи, дворы и земельные общества. Окружная комиссия рассматривает жалобы на решение районной и в качестве первой инстанции рассматривает те земельные дела, сторонами в которых будут правительственные и общественные учреждения, коллективные и советские хозяйства. Решение окружных земельных комиссий являются окончательными. Принесение на них жалоб в порядке надзора в особую комиссию высшего контроля не приостанавливает их исполнения. Такая постановка земельного суда ускорит движение земельных дел. До сих пор дела затягивались главным образом из-за того, что кассационная инстанция лишена была права изменять обжалованное ей решение земельной комиссии по существу. Теперь же окружная земельная комиссия будет сама вносить необходимые изменения в решения районных комиссий и затем сразу же обращать свои решения к исполнению.

**Е. Вишневский.**

---

# КООПЭРАЦЫЯ

## С.-г. крэдыт у вясеньні час.

Вясна вымагае ад сельскага гаспадара надзвычайнага напружэньня сіл і сродкаў. Але зруйнаваная за час вайны сялянская гаспадарка ня мае ў запасе сродкаў, каб сваімі ўласнымі сіламі паляпшацца. Кожная новая больш-менш грунтоўная справа вымагае сродкаў.

С.-г. крэдыт і йдзе на сустрэчу патрэбам сялянскае гаспадаркі. Яшчэ ў мінулым годзе вясной шмат якім гаспадаркам ён дапамог стаць на ногі і перайсьці да лепшых форм гаспадараваньня. Ня мала пры яго дапамозе было набыта коняй. Больш, як на 150.000 р. выдадзена ў пазыку насеньня канюшыны, лубіну, сэрадэлі, аўса, ячменю. Шмат гаспадарак атрымалі ў крэдыт плугі, драпкачы й інш. с.-г. прылады. Але гэта былі толькі першыя крокі с. г. крэдыту.

У гэтым годзі с.-г. крэдыт значна ўзмацніўся. Праз Белсельбанк на дапамогу сялянскай гаспадарцы ў гэтым годзе накіроўваецца каля 5 міл. руб. На вясеньні час сакавік-май выпадае каля $2^1/_2$ міл. р.

На пазычкі дзеля куплі аднаго толькі насеньня вызначана 600 тыс. руб. Пазычкі будуць выдавацца на насеньне канюшыны, лубіну, сэрадэлі і цімафейкі. У першую чаргу гэты крэдыт павінен давацца колектыўным гаспадаркам і тым, хто пераходзе на шматпольны севазварот. Частка пазычак насеньням будзе давацца на тэрмін да 2 год, а большасьць да 1 году (гл. афіцыйны аддзел. інструкцыя).

Нарэшце с.-г. пазычкі будуць давацца на с.-г. прылады і штучныя ўгнаеньні. На гэтыя дзьве патрэбы накіроўваецца каля 400 тыс. руб.

Нельга абмінуць і справу ачысткі насеньня і дапамогу па вырабленьню поля нават таму, хто купіць с.-г. машыну ня можа. На гэту справу, бач на організацыю прокатных пунктаў, вызначана да 40.000 р. с.-г. крэдыту і на куплю коняй да 500 т. руб.

Далей яшчэ адно балючае пытаньне аб паляпшэньні жывёлы. Пры недахватке вытворнікаў жывёлагадоўля, асбаліва рагатая скаціна, стаіць пад пагрозаю.

У гэтай справе на вясну пры дапамозе с.-г. крэдыту маецца на мэце організаваць да 300 злучных пунктаў з быкамі і да 30 з жарабкамі, таксама засноўваюцца злучныя пункты з кноразамі белае ангельскае пароды.

Гостра стаіць пытаньне і з організацыяй вясною збыту малака. Неорганізованы малочны рынак нясе вялікую страту нашай сялянскай гаспадарцы. Малако ня мае ніякай каштоўнасьці. Каб зрабіць яго

скарбніцай сялянскай гаспадаркі, зразумела, трэба наладзіць пераробку малака. На справу пераробкі і збыту малака Белсельбанкам выдзяляецца крэдыт у 125 тыс. руб.

Але гэтым ня можа абмяжоўвацца роля і значэньне с.-г. крэдыту на вясну. Ён яшчэ павінен дапамагчы сялянскай гаспадарцы перайсьці да лепшых форм землякарыстаньня, асушкі балот і будаваньня на новых сялібах. На здавальненьне гэтых патрэб вылучаецца—да 125 тыс. руб. на пазычкі па аплаце землябудаўнічых работ, 200 тыс. руб. на мэліорацыйную працу і больш 500 тыс. руб. (частка лесам) на адбудову хат і іншых будынкаў на новых сялібах.

Усе гэтыя сродкі размяркоўваюцца Белсельбанкам па крэдытным т-вам кожнага раёну, а апошнія ўжо выдаюць с.-г. пазычкі сялянам.

Як бачым, с.-г. крэдыт з кожным годам мацнее, а з ім будзе ўзмацняцца і сялянская гаспадарка. Уплыў яго на сялянскую гаспадарку ў вясну асабліва важны.

Трэба толькі больш моцна згуртаваць агрономічныя і сялянскія сілы вакол дзейнасьці крэдытовых с.-г. т-ваў і праз іх накіроўваць нашу сялянскую гаспадарку на шлях расквіту і добрабыту.

Е. Трахімаў.

---

## Задачы пачатковай с.-г. коопэрацыі вясною.

С.-г. коопэратыў на вёсцы зьяўляецца ня толькі праваднікам розных с.-г. машын і прыладаў, але і сродкам уплыву на формы сялянскае гаспадаркі. Асабліва яскрава выступае гэта вясною. Яравы засеў у сельскай гаспадарцы вызначае сабою амаль усю сыстэму гаспадаркі. З ім цесна зьвязана ўвядзеньне севазвароту і г. д.

Уся праца коопэрацыі вясною павінна быць *праведзена пад лёзунгам барацьбы з трохполёўкаю і пераводам гаспадаркі на жывёлаводны кірунак*. Прапусьціць гэту вясну было-б вялікай памылкай з боку нашых коопэрацыйных і зямельных працаўнікоў. Коопэратывы раёну павінны пашырыць працу па організацыі пракатных і ачышчаючых насеньне пунктаў ці скарыстаць ужо маючыяся. Патрэбна *прыстасаваць туды добрыя с.-г. машыны і адчыніць хоць невялічкую майстэрню дзеля рапараваньня*; сваячасна закупіць featuresрознае насеньне і ўгнаеньне. Пры разьмеркаваньні іх у першую чаргу абслугоўваць сваіх членаў, прычым прымаць пад увагу, як клясавыя адзнакі, так і магчымасьць зьвярнуць пазычку ў тэрмін і без перашкоды дзеля гаспадаркі.

У галіне жывёлагадоўлі коопэратывы павінны, калі толькі ёсьць магчымасьць, пачаць організацыю злучных пунктаў, абсталяваньне масладзельных і сыраварных заводаў; а тым коопэратывам, якія недалёка ад гораду ці чыгункі, неабходна *заняцца збытам сьвежа-малочнае продукцыі*. Ва ўсіх гэтых справах між пачатковымі коопэратывамі павінна быць згаворка, будзь то выпіска ўгнаеньня, дастаўка насеньня, карыстаньне машынамі і г. д. Пры будаваньні пляну свае працы вясною коопэратывам патрэбна сувязь з агрономам і інш. працаўнікамі вёскі, якія могуць дапамагчы іх працы.

А. Рыбакоў.

# АГРОДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## Агроном у вёсцы.

Цяпер у вёсцы расьце грамадзянская актыўнасьць сялянства і выяўляецца вялікая цікавасьць да лепшых спосабаў землякарыстаньня. Гэта адбіваецца ў тым, што па ўсёй Беларусі сялянства ўмоцнена рыхтуецце да пераходу на прысёлкі.

Але гэта падрыхтоўка ў некаторых месцах ня мае правіловага кіраваньня, чаму часта і добрыя замеры сялян-грамадзян застаюцца на паўдарозе.

У гэтай справе, на наш погляд, вызначаецца вялікая праца. Неабходна дапамагаць ўзросту сельскай гаспадаркі і прыбліжэньню вёскі да новых форм і лепшых спосабаў гаспадараваньня. Дзеля гэтага мы павінны прыблізіць і прыцягнуць да вёскі нізавую агрономічную сетку, праз якую толькі і можна гэта зрабіць хутка і правілова.

Аднаўленьне сельскае гаспадаркі залежыць, галоўным чынам, ад агронома ў вёсцы. Вядома, што ўмелы падыход агронома да селяніна разьвязвае вельмі шмат пытаньняў у яго штодзенным жыцьці.

На наш погляд, у працы агрономаў на вёсцы ёсьць невялічкі недахват, які неабходна агрономам паправіць. А гэта тое, што дзеля многіх агрономаў іх вучасткі, як і сялянскае насельніцтва, мала вядомы. У такім разе, агрономы часта працуюць уцёмную, чаму і праца іх не дае жаданых вынікаў.

Знача, вывучэньне агровучасткаў і ёсьць адна з галоўных прац, на падставе якой далей можна лёгка і пэўна будаваць плян узросту сельскае гаспадаркі.

Далей другое. Сярод сялянства нарастае грамадзкая актыўнасьць. Агроному і тут патрэбна быць яе правадыром. Ён павінен скарыстаць усё лепшае, папярэдняе сялянства, каб уцягваць яго ў больш актыўную працу культурна-коопэратыўнага будаваньня вёскі. А дзеля гэтага ў агронома ёсьць магчымасьці. Для прыкладу возьмем С—г. Раду, дзе агроном і сялянін могуць захапляцца аднэю думкай—як палепшыць сялянскую гаспадарку. Тут павінны быць вынайдзены і выяўлены ўсе кароткія і практычныя шляхі, па якім можна хутка і пэўна дасягнуць аднаўленьня сельскае гаспадаркі вёскі.

Апрача таго, у вёсцы ёсьць шмат грамадзянскіх і коопэратыўных аб'яднаньняў. Яны ўжо выявілі сябе, як грамадзянска-культурныя будаўнікі вёскі. Агроному варта іх улічваць.

Такім чынам, каля агронома павінна ўзбудавацца тая агрономічная база, якая можа служыць прыкладам нядбайнаму селяніну.

Пры гэтай галоўнай працы ў вёсцы агроном павінен памятаць і тое, што, навучаючы сялян, ён можа і сам вучыцца практычна.

Толькі супольная праца селяніна з агрономам можа хутка прыблізіць нашу сельскую гаспадарку да культурных мэтодаў яе вядзеньня і ўзросту.

Але ўсялякая праца агронома ў вёсцы можа быць продукцыйнай і карыснай тады, калі яна дапасавана да працы мясцовай улады, ячэйкі КПБ, комсамолу і будзе мець поўнае падтрыманьне гэтых організацый.

Пры гэткіх умовах можна чакаць і пасьпеху ад працы агронома.

**І. Ц.**

# Што дае саўхоз селяніну.

Сялянства ўжо разумее карысьць агрономічнае працы і культурных прыёмаў у сельскай гаспадарцы. Яно цікавіцца саўхозам, калі там можна атрымаць лепшага гатунку насеньне, прыпусьціць карову да быка, купіць прышчэпу і г. д.

На жаль, саўхозы яшчэ ня так багаты, каб здавольніць усе запатрэбаваньні сялянства. Але ўсё-ж такі саўхозы і цяпер шмат чым дапамагаюць сялянству.

Так, у мінулым годзе сяляне машынамі саўхозаў ачысьцілі 6637 п. рознага насеньня. Ачыстка рабілася на арфах, ветранках і трыерах. Акром таго, шмат сялян выменьвала сваё насеньне на сартавое насеньне саўхозаў. Усяго праз абмен сялянства здабыло сартавога

| | | | |
|---|---|---|---|
| жыта . . . . . | 10,488 пуд. | ячменю . . . . . | 1344 пуд. |
| пшаніцы зімовае і яровое. . . | 1588 „ | выкі . . . . . | 721 „ |
| аўса . . . . . | 3068 „ | іншага насеньня . | 759 „ |

Дзеля лепшай апрацоўкі глебы саўхозы даюць сялянам свае плугі, бароны й іншыя машыны і прылады. У 1924 годзе сялянства карысталася машынамі і прыладамі саўхозаў ў такой колькасьці: плугамі—631 дзень; баранамі—547 д.; іншымі машынамі—396 д.

У майстэрнях саўхозаў адрапаравана сялянам плугоў 184, іншых машын і прылад 207 штук.

Удзел саўхозаў у злучной кампаніі быў гэтакім: да вытворнікаў саўхозаў было прыпушчана сялянскіх кароў—2019; кабыл—400; сьвіньней—910.

Продана сялянам цялят 155 шт. і парасят 396.

У часе наступнай вясны сялянам гэтак-жа трэба поўнасьцю скарыстаць машыны саўхозаў дзеля ачысткі свайго насеньня і лепшай апрацоўкі глебы, пацікавіцца бугаём ці жарабком і г. д. У шмат якіх саўхозах сяляне змогуць дастаць сартавое насеньне збожжа, канюшыну і г. д.

Пладовыя школкі саўхозаў, змогуць даць сялянству каля 5-ці тысяч прышчэп.

Гэта ўсё толькі невялічкія прыклады далейшае і больш шырокае ролі й значэньня саўхозаў у сельскай гаспадарцы.

**Г. Ж.**

# ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

## Да дня лесу.

Дзень лесу гэта вялікае рабоча-сялянскае сьвята. У гэты дзень кожны грамадзянін ці грамадзянка нашае Рэспублікі павінны падумаць аб лесе і што-небудзь зрабіць дзеля лесу ці ляснoе гаспадаркі. Дзень лесу, як сьвята пасадкі лесу, сьвяткуюць з даўных часоў у шмат якіх краінах асабліва на Захадзе. Найбольшы удзел у сьвяце прымае моладзь.

Даўней, пры нязначным дабываньні з зямлі розных апалаў і няўмелым карыстаньні лясным багацьцем, заходняе жыхарства хутка пазьнішчыла свае лясы. А бяз лесу кепска жыць кожнаму чалавеку. Лес пры цяперашнім разьвіцьці тэхнікі і культуры зьяўляецца для народнае гаспадаркі адным з самых каштоўных сродкаў. Такая вартасьць лесу прымусіла сялянства Захаду ахоўваць застаўшыся лес і садзіць новы. Ахова лесу зрабілася абавязкам кожнага грамадзяніна і перайшла ў сьвята. Цяпер гэта сьвята ўжо лічыцца самым вясёлым сьвятам вясны. Дзякуючы такому звычаю, сяляне Заходу засадзілі новыя лясы і прывялі ў належны выгляд старыя; разьвялі шмат садоў, паркаў і абсадзілі ўсе дарогі ня толькі ляснымі дрэвамі, але й садовымі. У некаторых старонках ёсьць нават звычай, што як родзіцца дзіця, то ў адзнаку гэтага садзіцца дрэўца,якое расьце разам з ростам дзіцяці. Калі дрэўца часам засохне, то замест яго садзіцца новае.

Добрыя адносіны да лесу на захадзе тлумачацца тым, што людзі даўно зразумелі карысьць і вартасьць лесу. У нас яшчэ лясоў шмат, але калі мы ня будзем іх ахоўваць, то прыдзе такі час, калі і мы застанёмся бяз лесу. Успомнім колькі траціцца маладых бярозак і елачак на убраньне вуліц і хат сёмухаю, калядамі і інш. сьвятамі. А ці шмат мы іх пасадзілі замест мільёнаў высечаных? Шмат ідзе лесу бяз толку і на другія патрэбы. Усё гэта гавора аб нашым няўмелым карыстаньні лесам.

Дзень лесу, які пачаў праводзіцца ў Беларусі толькі пры Савецкай уладзе, ставіць перад сабою вялікія мэты. У дзень лесу мы павінны навучыцца, як садзіць, так і даглядаць за дрэўцамі. Нашы гарады вёскі, хаты і дарогі маюць няпрыемны выгляд. Толькі пасаджаныя дрэвы могуць зрабіць хараство. Але гэта яшчэ ня усё. А нашы хаты, хлявы, розныя гаспадарчыя рэчы—усе зроблены з дрэва. Савецкая улада ўчас ўзялася за ахову леса, заснаваўшы „Дзень лесу". У гэты дзень мы на справе павінны паказаць, што мы разумеем вартасьць і каштоўнасьць лесу.

Моладзь! асабліва табе трэба паказаць сябе ў гэтай справе. У гэтым напрамку мы ня толькі дагонім, але і апярэдзім Захад, бо ў нас працоўныя вольны, а вольны чалавек можа зрабіць, больш і лягчэй. Дык да працы у „Дзень лесу!“.

**Дзівак.**

---

## Зьнішчэньне чорналесіцы.

Пад зьнішчэньнем чорналесіцы я разумею галоўным чынам наступ на дубовыя лесазасевы з падмешкаю ясеню, чыстыя дубровы і алешнік. На чорналесіцу гэтага тыпу йшоў і йдзе наступ, як з боку сялянства, так і з боку некаторых прадстаўнікоў мясцовых устаноў. Паглядзімо, як абязьлесваюцца плошчы з-пад дубу і што гэта знача.



Стары дуб.

Лесазасевы дубу з ясенам нішчыліся й нішчацца неабдумна. Пры слабасьці законаў за самапраўныя вырубы, абоднік часта забіраецца з сякераю ці пілою ў лес і валяе ясень на абады, а другі—дуба на штандары, падрубы ці будоўлю студні. Пасьля парубкі і вецер павялічвае лік павалу і нішчыць лес. Далей зьяўляюцца рыдлёўка і плуг, і праз некалькі год дуброва робіцца падобнай на палетак пахаці, дзе толькі зрэдка стаяць тоўстыя дубы, як вартаўнікі, сваіх „загінуўшых братоў“. Стаячыя на корані дрэвы пачынаюць хварэць ад марозабоін, шашалю і грыбоў. Усходы-ж жалудоў ня могуць затрымацца пры штогоднім заворваньні. Скора сяляне пачынаюць лічыць гэтыя часткі лесу сваім уласным здабыткам, сваёю „працаю“. Пачынаюцца дамаганьні аб перадачы гэтых плошчаў пад сялібы і часта маюць пасьпех.

З алешнікам робіцца трохі йнакш. Сьпелых алешын селянін не чапае, але ніводнай пасецы ён ня дасьць панавіцца лесам.

Зьнішчэньнем дуба і ясеню і перадачаю той плошчы пад сельска-гаспадарчае карыстаньне здавальняюцца 30-40 гаспадароў ад усяго



раёну. Карацей кажучы, багатаю глебаю з-пад дубровы здавальняецца невялікая лічба сялян.

Памяншэньне-ж плошчы з каштоўнаю лесавою пародаю, як дуб ці ясень, у хуткім часе значна адгукнецца на гадавым грашовым абароту лесавое гаспадаркі, бо лік 50-70 сьпелых дубоў ці ясеняў ў гадавой пасецы прыблізна роўнакаштоўны 10 дзесяцінам сьпелага хваёвага лесу.

Ад зьнішчэньня дубу застануцца без зімовага прыбытку нашы майстры мэмальскае клёпкі, а бандары бяз матар'ялаў на драўляную пасуду.

Беларуская лесавая прамысловасьць страціць сваю вагу, як дастаўшчык на заходня-эўропэйскія рынкі мэмальскае клёпкі і дубовых фанерных кражоў і інш. Ад зьнішчэньня ясеню загіне вытворчасьць абодніцтва.

Разам з уходам дубу загіне і арэшнік, якім карыстаюцца бандары. Арэшнік-жа дае прыбытак і ад збору арэхаў.

Наогул, ад скарачэньня памянёнага тыпу чорналесіцы зьменшыцца прыбытак лясоў, бо ня будзе і каштоўных матар'ялаў дзеля справы замежнага гандлю.

Маючы на увазе паказаныя страты краю ад зьнішчэньня дубу і ясеню, трэба-б было неадкладна прыдумаць і меры аховы названых каштоўных дрэў лесу, бо нядоўга чакаць таго моманту, калі мы даведаемся, што дубу і ясеня на Беларусі няма.

Алешына, бязумоўна, менш каштоўная парода, чымся дуб ці ясень.

Бясспрэчна і тое, што балота, дзе расьце алешына, мае добрую глебу дзеля сенажаці. Але ўперад, чым аддаваць апошняе пад расьцяроб або ў зямельны фонд, трэба было-б разважыць, ці ёсьць сэнс скарочваць і плошчу алешніку. Алешнік шырока здавальняе матар'ялам бандароў (ночвы, бойкі і інш.), а галоўнае зьяўляецца відавочным фактарам сучаснага магчымага росквіту беларускага фанернага вырабу.

Здаецца, і ад скарачэньня алешніку значных плошчаў мы не дастанем.

Загэтым, замест звычайнага зьнішчэньня дубу, ясеню і алешыны нам пара ўзьняць лёзунг аб шанаваньні гэтых парод, і заняцца мэліарацыяй нашых імшарын.

**Язэп Троська.**



# КРАЯЗНАЎСТВА

## Гадоўля скаціны на Мазыршчыне.

Сельская гаспадарка на Мазыршчыне немагчыма бяз жывёлы. Жывёла зьяўляецца там асноваю земляробства. Пескавая зямля кожныя 1-2 гады патрабуе гною, без якога зусім ня родзіць. Гэта заўважыў і сам селянін. Ён не клапоціцца аб малочнасьці сваіх кароў і правіловай малочнай гаспадарцы. Сям'я гаспадара карыстаецца нязначным удоем ад некалькіх штук кароў. Больш увагі зьвяртае селянін на лічбу худобы. Нават слабы гаспадар мае там 5-6 штук рагатае скаціны, лічачы і маладняк. Сярэдні-ж гаспадар налічвае да 10 галоў. Пры гэтым трымаюць яшчэ па 1-2 пары валоў і 10-15 штук авец. З боку лічбы жывёлы гаспадарка здаецца добрай. Але на справе зусім інакш. Скаціна чырвонай беларускай пароды, малая і худая. Цяляты да 2-х год так заморaны, што вялічынёю бываюць з авечку альбо сьвіньню. Важаць яны ня болей $2^1/_2$-3 пудоў, а старыя каровы да 10-15 пудоў. Маладняк гадуецца дзеля зьмены старых кароў, гною, гаспадарскіх зваротаў і продналогу. Збываюць сяляне маладняк неарганізавана. Напрыклад, у 1923—1924 г. маладняк забіралі прыватныя сьпэкулянты праз свае канторы ў Мазыру і Петрыкаве і адпраўлялі яго ў Кіеў, а за сялян уносілі продналог. Пасьля гэткае опэрацыі худоба ў селяніна значна радзела.

Сам селянін вельмі мала дбае аб паляпшэньні свае худобы. Ёсьць выпадкі, калі круглы год скаціна трымаецца пад адкрытым небам. Часта кажуць: „Яна ў нас прывычная—зімою мы яе крыху ахаем ад сьнегу, дамо харчоў, падоім і яна трывае". Палепшаных бугаёў няма. Часьцей карыстаюцца бычкамі 1-2 год, якія пасуцца разам з каровамі. Цяляты трымаюцца пад кароваю 3-4 месяцы. На пашы цяляты робяцца вельмі худымі, дрэнна растуць і часта хварэюць.

Як-жа харчуецца худоба? Адказ просты: хмызьнякоў ды балот кругом, як акінуць вокам. Але паша дрэнная. У балоце расьце высокая трава смычай (Scirpus lacustris L.—камыш вазёрны) і казарнік (Eriophorum polystachyum L.—пушыца). Гэтую траву шмат ляпей есьць жывёла, калі трава перамерзьне. Здараецца, што сяляне позна восеньню ці рана вясною пасуць худобу па замаразі. Як замерзьне балота, прывозяць і сена. Струшанку (мяшанку) даюць рэдка, найчасьцэй кормяць аднэй саломай ці адным сенам. Бываюць выпадкі, калі гаспадар прывозіць з балота воз сена, ставіць яго сярод двара, і худоба харчуецца, як папала. За першым возам цягнецца новы і так далей. Πояць худобу каля калодзежа на двары, а гэтак-жа ганяюць да рэчкі ці крыніцы.

Няма там добрых хлявоў, як на Меншчыне ці Барысаўшчыне. Сьцены ў іх з вялізарнымі дзіркамі, а замест страхі—на жэрдкі накідана мятая салома.

Працуюць на Мазыршчыне пераважна на валох. Трапляецца, што да вала незаможнікі прыпрагаюць карову. Валы ўкраінскае расы, сьветла шэрыя з вялізарнымі рагамі. Запрэжаныя ў вялікі воз, валы наважна ступаюць па дарозе, не зьвяртаючы ўвагі на хмары мух, якія снуюць каля іх. У дарогу селянін не бярэ харчоў. Калі трэба пакарміць валоў, ён выпрагае іх і пушчае пасьвіцца гадзін на 4-5, а сам ладзіць воз ці пляце лапці.

Значным бічом для скаціны зьяўляюцца розныя хваробы і ваўкі. Ад ваўкоў часта няма жыцьця. Гэтыя „бандыты“, як завуць іх сяляне, занадта сьмела гаспадараць. Напрыклад, у селяніна Кастуся Сушчынскага (хутар Глымаў) за тры гады яны зьелі сем штук кароў. Пра авечкі і гаварыць няма чаго. На барацьбу з ваўкамі трэба зьвярнуць увагу.

**Сьц. Кот.**

# Краткая программа фенологических наблюдений (Для всего СССР.). *)

## Весна.

1) Выпадение последнего снега. Исчезновение снегового покрова. 2) Вскрытие водоемов (река, озеро, пруд). 3) Появление грачей (на Севере) и серых ворон (на крайнем Севере). 4) Появление скворцов. 5) Первое пение полевого жаворонка (Alauda arvensis L.). 6) Первый крик удода. 7) Прилет белых трясогузок. 8) Первая песня зяблика. 9) Первые стаи пролетных журавлей и гусей и массовый пролет. 10) Появление комаров, толкунов и кусак. 11) Движение сока у березы. 12) Зацветание серой ольхи для Сев. и липкой ольхи для Юга. 13) Зацветание орешника-лещины (сережки пылят). 14) Зацветание первого весеннего цветка: белого подснежника на Юге; белой и голубой перелесок на Севере и в Центре; петушка-ириса и дикого миндаля-бобовника в степях; желтого крокуса для Закаспийской Обл.; мать и мачехи с отметкой созревания плодов-летучек; калужницы-болотного куроелепа. 15) Первая гроза. 16) Зеленение черемухи и березы. 17) Время массового прохождения рыб (на Севере семги, на Волге—красной рыбы и сельди, в Восточной Сибири—кеты; на Волхове—сига; на Нарове—угря и на Неве—корюшки и ряпушки. 18) Первый вылет летучих мышей. 19) Появление первых бабочек: крапивницы и желтушницы-крушинницы. 20) Начало пастьбы скота. 21) Прилет аиста. 22) Начало посадки баштана для Черн. Об.-арбуза, огурцов, дыни, тыквы. 23) Зацветание кизиля и абрикоса на Ю. 24) Зацветание клена. 25) Зацветание черемухи. 26) Появление жуков—хрущей-аленок. 27) Первое кукованье кукушки и первая песнь соловья. 28) Начало взятка у пчел. 29) Зацветание вишни и терна на Ю. и частично в Ц. 30) Появление сусликов для Ч. О. 31) Зацветание сирени. 32) Появление деревенской ласточки касатки. 33) Зацветание рябины. 34) Зацветание грецкого ореха 35) Зацветание желтой акации в Ц. и на С. 36) Первая пахота под яровое. 37) Первый посев, зазеленение ржи, овса и ячменя. 38) Появление черных стрижей—косырей. 39) Первый крик иволги. 40) Первый бой перепела. 41) Первое появление на дикорастущих злаках кузьки для Ч. Обл.

*) Рэд. З працы проф. П. Салаўёва.

# С.-Г. ХРОНІКА

**С.-г. курсы.** У зьвязку з гатаваньнем да веснавых прац па сельскай гаспадарцы па акругах Беларусі з 1 сьнежня 1924 году праводзіцца шэраг кароткатэрміновых с.-г. курсаў дзеля сялян. Праводзяць курсы агрономы пры значным удзелу вэтэрынараў.

Да пачатку веснавае працы будзе праведзена ня менш ста курсаў.

Па першае скавіка па 9 акругах праведзена ўжо 75 курсаў. Тэрмін курсаў 2-3 тыдні. Сярэдні лік слухачоў 40 - 50 чалавек. Заняткі на курсах вечарамі. Выкладаюцца пытаньні палявое гаспадаркі, жывёлагадоўлі, вэтэрынарыі, садоўніцтва і гародніцтва.

---

**Ачыстка насеньня**. З студзеня месяца па акругах Беларусі агропрацаўнікамі вядзецца кампанія за ачыстку сялянскага насеньня. Па пляну агроаддзелу НКЗ да веснавога часу палявых работ павінна быць ачышчана 950 т. пуд. рознай ярыны.

— Наркомземам куплена заграніцай 100 сартавальных машын— трыеры Гейда. Большасьць іх ужо працуе на мясцох. Машыны дзеля ачысткі насеньня перасоўваецца па раёну ад вёскі да вёскі спэцыяльным абозам. Цікавасьць сялянства да гэтых машын вялікая. Бываюць выпадкі, што машыны працуюць усю ноч. Ачыстка насеньня спаўняецца бяз кошту і толькі некаторыя акругі бяруць плату (1 - 2 к. за пуд.)

**Пратрава насеньня**. Дзеля барацьбы з грыбнымі хваробамі, асабліва сажай ячменю, пшаніцы, аўса у гэту вясну будзе праведзена пратрава сялянскага насеньня. Ужо робіцца разьмеркаваньне па акругах пратравы (сіняга каменю, і формаліну), а гэтакжа будзе азнаёмлена насельніцтва са спосабамі барацьбы (лістоўкі, плякаты). Пратрава насеньня будзе бяз кошту.

**Загатоўка насеньня**. Наркомземам сумесна з Цэнтраземскладамі, Белсельсаюзам (с.-г. коопэрацыя) і Белсельбанкам да веснавога засеву будзе размеркавана мёсцам рознае насеньне.

| | | |
|---|---|---|
| Канюшыны . | 31.500 пуд. па цане ня звыш | 25—26 руб. пуд. |
| Выкі . . . . | 30.000 . . . . . . . . . | 1.50—2 р. |
| Лубіну . . . | 31.000 . . . . . . . . . | 1.20—1.40 к. |
| Сэрадэлі . . | 7.000 . . . . . . . . . | 2.50—3. р. |
| Цімафейкі . . | 6.000 . . . . . . . . . | 10 р. |
| Лёну-даўгунцу | 15.000 . . . . . . . . . | 2.50—2.75 к. |

Усяго прыблізна на 968 тысяч рублёў.

З гэтага ліку канюшыны будзе спродана 4.575 пудоў,
дадзена ў крэдыт да 1 году 18.300 „
і звыш году . . 7.625 „

Сэрадэля і лён будуць давацца ў крэдыт.

Канюшына будзе давацца ў крэдыт шматпольнікам.

**Становішча зімовых засеваў.** (Даныя ЦСК Беларусі на першае сакавіка па ацэнцы да 5).

| Акруга | Жыта | Пшаніца | Акруга | Жыта | Пшаніца |
|---|---|---|---|---|---|
| Полацкая | 2,2 | 2,3 | Магілеўская | 2,2 | 2,2 |
| Віцебская | 2,5 | 2,5 | Калінінская | 2,0 | 2,1 |
| Барысаўск. | 2,4 | 2,4 | Бабруйская | 2,6 | 2,7 |
| Воршанская | 2,2 | 1,8 | Слуцкая | 2,6 | 2,4 |
| Менская | 2,9 | 2,9 | Мазырская | 2,8 | 2,5 |
| Сярэдняе па Беларусі на 1-е сакавіка | | | | 2,5 | 2,4 |
| „ „ 15 лютага | | | | 2,4 | 2,3 |

**Белсельсаюзам** да вясны г. г. прыгатавана 11 тысяч пудоў насеньня канюшыны, з якіх 3 тысячы пуд. куплена на сваім беларускім рынку.

Ад №-скае кавалерыйскае дывізіі праз НКЗ атрымана 11 жарабкоў на веснавы пэрыод злучкі. Жарабкі накіроўваны ў Полацак, Калінінск, Слуцак, Барысаў два застаюцца ў Менскай акрузе.

**Праз Госсельтрэст** купляецца яшчэ 5 племянных чыстакроўных рысакоў.

Белсельсаюзам закуплена ў Маскве 75 вагонаў супэрфосфату, з якіх на веснавы пэрыод прыпадае 15 тысяч пуд.

**Цэнтраземскладам** ў бягучым годзе да часу пасева куплена шмат розных с.-г. машын, сартавога насеньня і мінэральных угнаеньняў. Цэны дзеля коопэратываў будуць гэткімі:

| Назва машыны | Цана Руб. | Цана К. | Насеньня | Цана 1 пуда Руб. | Цана 1 пуда К. | Усходжасьць у % |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Плуг аднаконны | 9 | 10 | Канюшына чырвоная . . . | 24 | „ | 93. |
| „ параконны | 18 | 84 | Цымафейка . . | 10 | „ | |
| Пружыноўка на 7 зубоў | 25 | 75 | Сэрадэля . . . | 3 | „ | |
| Барана „Зіг-Заг“ | 9 | 55 | Выка . . . . | | | |
| Асыпнік . . . | 8 | 75 | Лубін . . . . | | | |
| Сяўнік 7 радовы | 89 | „ | | | | |

Маламоцнаму сялянству на дробныя с.-г. машыны і прылады будзе дадзены крэдыт да 9 мес., а на больш дарагія—да 2 год.

**Праз с.-г. коопэрацыю** будзе праводзіцца крэдытаваньне насельніцтва насеньнем канюшыны, цімафэйкі, сэрадэлі, лубіну і лёну-даўгунцу.

З угнаеньняў на складах маюцца фосфар, калі і азот.

| | | |
|---|---|---|
| Супэрфосфат<br>Касьцяная мука<br>Фосфарытавая мука | Узбагачваюць глебу фосфарам. | Калійная соль—калі.<br>Чылійская салітра—азотам. |

## Фосфарытавая мука.

Патрэбна асаблівая увага гэтаму ўгнаеньню, калі яно тонкага размолу. Досьледы праз 4 гады ў Смаленскай губэрні на падзолах далі ўраджай жыта 91,9 пуд. замест 49,7 пуд. бяз угнаеньня. Фасфарытавай мукі бралася 36 пуд. на 1 дзес., але яна по цане самая танная (каля 40 кап. пуд).

Найлепш сеяць фосфорытавую муку пад лубін, які, можна сказаць, мае магутную сілу ў сваіх карэньнях. Лубін першы скарыстае фосфор мукі і дасьць павялічаны ўраджай зялёнае масы, якая далей будзе скарыстана жытам.

Раяць гэтае ўгнаеньне і скарыстаньне праз лубін лепшыя заўнцы ўгнаеньняў і спэцыяльныя інстытуты.

— **Наркомзему** з красавіка м-ца г. г. асігнавана 25.000 руб. на паказальныя мерапрыемствы па жывёлаводзтву.

1) На паказальное кармленьне 720 кароў, гадоўлю 120 цялят, перабудову і пабудову новых паказальных хлявоў і 2) на куплю—

а) масладзелак . . . . . 20 шт.
б) абсталяваньняў да контрольных т-ваў 10 комп.
в) інкубатараў . . . . . 10 шт.
г) прыкладнай вупражы . . . 50 комп.
д) назіральных колекцый дзеля курсаў . 10 „

# Паштовая скрынка.

Райагроному Сяргейчыку. Артыкул „Досьледы з пажніўным лубінам“ будзе надрукованы ў адным з наступных нумароў. Артыкул „Найлепшыя формы землякарыстаньня“ переданы ў газету „Б. В.“

Ў. Казюка. „Практычныя рады па садоўніцтву“ будуць скарыстаны.

Селяніну А. Андрееву. Ваша паказальная гаспадарка, як на бяду, мае звычайныя ўраджаі. Цікава у Вас організацыя палявое гаспадаркі. Яе апішэце.

Турскай Дасьледчай Станцыі. „Аб часе уборкі балотнай сенажацьці“ будзе надрукована.

Проф. П. Салаўёву. Будуць надрукованы Вашы фенолёгічныя назіраньні за прыродаю і кароткая програма назіраньняў.

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

*Цыркуляр № 7/2 В.*

## Па кіраўніцтву сельскай гаспадаркі.

### Аб падрыхтоўцы да наступнае пасяўное кампаніі і пляну разьмеркаваньня насеньня.

*Усім Акруговым Земаддзелам.*

*(За 13 лютага 1925 году, № 2—В 10298.)*

Далучаючы да гэтага пратакол нарады за 6 лютага г. г., зацьверджаны Наркомземам па пытаньню аб правядзеньні наступнай вясеньняй пасяўное кампаніі і плян разьмеркаваньня насеньня па акругах, гэтым Наркомзем мае паведаміць і прапанаваць усім Акрза наступнае:

1) Усім Акрза належыць тэрмінова разглядзець плян разьмеркаваньня насеньня па акрузе і даць аканчальны адказ НКЗ'у аб згодзе з лічбамі ліку насеньня, якое будзе належаць акрузе па пляну.

2) Водпуск насеньня канюшыны насельніцтву, пераходзячаму на шматпольле, будзе зроблены: а) на 70% ад заяўкі Акрза дзеля гэтай групы ў парадку доўгатэрміновага (да 2-х год) крэдыту і б) на 30% заяўкі Акрза ў парадку кароткатэрміновага крэдыту да аднаго году.

3) Здавальненьне насеньнем іншых кармовых траў (выка, сэрадэля), і лубіна насельніцтва, пераходзячага да шматпольля, будзе рабіцца на падставах, прынятых нарадаю за 6 лютага.

4) Прыкладныя розьнічныя цэны вызначаюцца: дзеля канюшыны —25 р. пуд., выкі—1 р. 80 к., лубіну—1 р. 10 к.—1 р. 20 к., сэрадэлі —2 р. 50 к., цімафейкі—10 руб., лёну (сартавы даўгунец)—2 р. 50 к. —2 р. 70 к. пуд.

5) Здавальненьне насельніцтва насеньнем лёну-даўгунцу далучаецца да пляну разьмеркаваньня з мэтай разьвіцьця мясцовага насеньня сартавога лёну; гэтаму мерапрыемству ў бягучым годзе надаецца асаблівае значэньне. Водпуск насеньня лёну будзе рабіцца парадкам кароткатэрміновага крэдытаваньня з сродкаў, маючыхся ў Белсельбанку і асыгнаваных цэнтрам.

6) Апрача паказанага ў пляне раскладу насеньня, Белсельсаюз мяркуе купіць да вясеньняе пасяўное кампаніі да 3000 пуд. насеньня сартавога аўса („Лейтэвіцкага": „Залаты Дождж") дзеля задавальненьня сялянства і ў першую чаргу насенных таварыстваў.

7) Ваша заключэньне належыць параслаць у Наркомзем да 20 лютага. Не прадстаўленьне да вызначанага тэрміну адказу будзе лічыцца, як згода ваша з плянам разьмеркаваньня НКЗ; пасьля паказанага тэрміну загатоўчыя органы могуць прыняць крокі да продажу часткі насеньня, залічанага ў рэзэрвны фонд. Нам. Наркомзему (*Русецкі*)). Начкіраўсельгас (*Атабекянц*). Кіраўнік агроаддзелу *(Міхайлаў*).

*Цыркуляр № 2В/10.*

**Аб прадстаўленьні вестак на конт працы агропэрсоналу па організацыі шматпольля ў 1925 г. згодна плянаў работ.**

*Усім Акруговым Земаддзелам.*

(*За 16 лютага 1925 г. № 2-В 10598.*

Далучаючы да гэтага форму ведамасьці да пляну прац па організацыі шматпольных севазваротаў, кіраўніцтва сельскай гаспадаркі прапануе даць прыстасаваныя да гэтай формы весткі не пазьней 1-га сакавіка бягучага году.

Пры гэтым кіраўніцтва сельскай гаспадаркі лічыць неабходным зазначыць:

1) работы агропэрсоналу па організацыі шматпольля згодна пляновых меркаваньняў агроаддзелу і Акрза па агрочасьці, у бягучым 1925 г. павінны зьяўляцца аснаўнымі з усіх відаў мерапрыемстваў пляновага парадку, чаму на яе павінна быць зьвернута найбольш увагі і сілы агропэрсоналу акруг у бягучым годзе;

2) пры вызначэньні конкрэтных (рабочых) плянаў і пры далейшым зьдзейсьненьні іх, найбольш увагі зьвярнуць на організацыю шматпольных севазваротаў у раёнах ужо земляўпарадкаваных (з боку тэхнічнага землябудаўніцтва), а ў апошніх у групавых землякарыстаньнях, перш за ўсё, прысёлках і комхозах.

Гэта, вядома, не павінна выключаць работы па організацыі шматпольля ў цэлых вёсках, дзе гэта магчыма правесьці па варунках землякарыстаньня і апраўдваецца пэрспэктывамі замацаваньня ўведзеных севазваротаў (калі вёска ня мае імкненьня да разьбіўкі ў далейшым на прысёлкі, выдзелы і г. д.)

3) У план работ трэба ўключыць агляд уведзеных ужо да 1925 г. севазваротаў з тым, каб уявіць ступень замацаваньня іх і прыняць адпаведныя крокі ў выпадках парушэньняў намечаных севазваротаў і пераходаў да іх.

4) Заяўкі на патрэбны лік насеньня канюшыны дзеля гаспадарак, пераходзячых на шматпольле, раней Вамі прадстаўленыя, могуць быць задаволены поўнасьцю намечаным запасам канюшыны, як аб гэтым ужо даведзена да Вашага ведама адносьнікам за № 2-В—10298, дзе ўказваецца і магчымасць крэдытаваньня.

Адсутнасьць пэўных вестак на пляну землябудаўніцтва на 1925 г. не павінна затрымоўваць прадстўленьня запатрабаваных гэтым цыркулярам данных. Начкіраўсельгас *Атабекянц.* Кіраўнік Агроаддзелу *Міхайлаў.*

*Цыркуляр № 68.*

## Па лясному кіраўніцтву.

*Усім Лясьнічым і Інспэктаром лясоў.*

**Аб продажу сухастою, ветравалу і буралому з учотам па пнёх.**

*(За 7 сакавіка 1925 г. № 4—В (13267.)*

З прычыны надыходзячых з месц заяў аб тым, што пры продажу сухастою, ветраламу і буралому з учотам па ліку прыгатаванага матар'ялу маюць месца выпадкі, калі выбіраецца лес выключна лепшае якасьці, а горшы застаецца, а з другога боку бываюць скаргі, што мёртвы лес дравяное якасьці лясьніцтва прымушае абавязкова рэзаць на дровы, тады, калі купляючы жадаў-бы яго вывезьці цалкам; кіраўніцтва лясамі, каб пазбыцца гэтага, прапануе ў будучыне рабіць продаж вышэйпаказанага лесу абавязкова з учотам па пнёх, з папярэднім закляймленьнем. Гэткім шляхам будзе дасягнуты загадзя учот мёртвага лесу і пляновае яго разьмеркаваньне. За нач. кіраўніцтва лясамі (*Хрушчоў*). Заг. эксплёатац. аддзелу (*Седашоў*). Інспэктар эксплёатац. лясоў (*Ждановіч*).

---

*Цыркуляр № 52.*

*Акруговым і Вучастковым Інспэктаром і ўсім Лясьнічым БССР.*

**Аб магчыма поўным здавальненьні сялянства лесам.**

*(За 21 лютага 1925г. № 4 В—52—11263).*

4-я сэсія ЦВК ССРБ пастановай за 7 лютага г. г. запрапанавала НКЗ устанавіць нормы водпуску лесу на сялянскі двор, больш адпавядаючыя запраўднай патрэбе. Для спаўненьня паказанай пастановы Лясным Кіраўніцтвам склікаецца на 9 сакавіка асобная нарада з прадстаўнікоў Рыкаў, Сельсаветаў, Комітэтаў Сялянскіх Аб'яднаньняў Узаемадапамогі і Лясьніцтваў.

Лічачыся з гострай патрэбай насельніцтва ў апале, Лясное Кіраўніцтва, да часу ўстанаўленьня норм, адпавядаючых запраўднай патрэбе, прапануе лясьнічым прыняць крокі да водпуску, калі гэта па становішчы лясных дзялянак будзе магчыма, без асобных пасьведчаньняў і сьпісаў, на кожны сялянскі двор: у малалесных мясцовасьцях да 1 к. с., у сярэднялясных да $1^1/_2$ к. с. і ў лясных да 2 к. с. дрэва на дровы.

Дзеля найбольш поўнага задавальненьня дрэвам будаўнічых, гаспадарчых і прамысловых патрэб вясковага працоўнага насельніцтва неабходна выкарыстаць у лясных дачах:

1) Мёртвы лес і лесарубачныя рэшткі ад лесазагатовак на падставе правіл па організацыі месячніка па здавальненьню сялянства мёртвым лесам.

2) Усе вольныя лесасекі 1924-25 г., недаборы і рэшткі лесасек папярэдніх год, пачынаючы з 1920 г., на падставе правіл аб продажу лесу працоўнаму насельніцтву дрэвамі і дзялянкамі.

3) Лес, прызначаны дзеля вырубу на падставе інструкцый аб гаспадарчых лесараспрацоўках у парадку догляду за насаджэньнямі дзеля задавальненьня працоўнага насельніцтва дравамі і будаўнічымі матар'яламі.

Кіраўніцтва лясамі прапануе акруговым і вучастковым інспэктаром, лясьнічым і нам. лясьнічых выявіць максімум энэргіі й ініцыятывы да мажліва поўнага задавальненьня сялянскага працоўнага насельніцтва дрэвам без парушэньня прынцыпаў і асноў лясное гаспадаркі і шырока азнаёміць мясцовую ўладу і насельніцтва з правадзімымі мерапрыемствамі шляхам дакладаў на паседжаньнях Рыкаў, Сельсаветаў і Камітэтаў Сялянскай Грамадзкай Узаемадапамогі, а гэтак-жа па магчымасьці і на агульных сходах грамадзян.

Далучаецца дзеля кіраваньня і спаўненьня:

1) Правілы па організацыі месячніка. 2) Правілы продажу лесу па выпярэдніцтву. 3) Інструкцыя аб гаспадарчых лесараспрацоўках у парадку догляду за лесам.

Правілы па організацыі месячніка распаўсюджце па Сельсаветах і Камітэтах Узаемадапамогі з просьбай вывесіць на бачных месцах.

Аб выніках водпуску лесу Лясьнічыя прымушаюцца паведамляць Кіраўніцтву Лясамі цераз кожныя два тыдні. Нам. Наркома Земляробства *Цыганкоў*. Начальнік Кіраўніцтва Лясамі *Скамарохаў*. Загадчык Эксплёатац. Аддзелу *Седашоў*.

---

# З інструкцыі

## аб парадку скарыстаньня крэдытаў па снабжэньню насельніцтва насеньнем траў у веснавую пасяўную кампанію 1925 г.

1. Сродкі с.-г. крэдыту па забясьпечаньню сельскае гаспадаркі насеньнем у веснавую пасяўную кампанію 1925 г. скарыстоўваюцца выключна на крэдытаваньне насельніцтва насеньнем канюшыны, цімафейкі, сэрадэлі, лубіну і лёну-даўгунцу.

*Увага*. У некаторых выпадках па ўзаемнай згодзе паміж акруговымі ўстановамі с.-г. крэдыту і Акрземкіраўніцтвамі можа быць крэдытаваньне на насеньне вікі.

2. Крэдыты з гэтай мэтай разьмяркоўваюцца па акругам Белсельбанкам згодна пляну Наркомзему па завозу ў акругі насеньня Цэнтраземскладам і с.-г. коопэрацыяй.

3. Крэдыты па акруговым установам с.-г. крэдыту выдаюцца Белсельбанкам грашмі; акруговыя-ж установы с.-г. крэдыту крэдытуюць сваіх кліентаў выключна насеньнем па згодзе з Акрсельсаюзам і аддзеламі Цэнтраземскладу на ніжэй пералічаных асновах.

4. Акруговыя ўстановы с.-г. крэдыту выдаюць пазычку на насеньне дзеля крэдытаваньня насельніцтва толькі крэдытовым і крэдытова с.-г. таварыствам, а гэтак жа дзеля сваіх уласных патрэб арцелям, комунам і інш. вытворчым с.-г. таварыствам, калі апошнія не крэдытуюцца на тую-ж мэту ў раёных крэдытовых таварыствах.

5. Крэдытовыя таварыствы загадзя аб'яўляюць насельніцтву аб мажлівасьці атрыманьня крэдыту на насеньне, яго разьмеру і варунках водпуску; сумесна з раёным агрономам высьвятляюць патрэбы насельніцтва свае акругі на насеньне памянёных культур, вядуць учот будучым даўжнікам і заяўляюць аб неабходным крэдыту ў акруговыя ўстановы с.-г. крэдыту за подпісам сваім, Райземаддзелу і Райагронома.

6. Заяўкі павінны быць абаснаваны і мець данныя аб ліку двароў раёну, на колькі дзесяцін патрэбна насеньне, які яго лік і на якую суму.

7. Сялянскія гаспадаркі крэдытуюцца насеньнем выключна праз крэдытовыя і крэдытова с.-г. т-вы, знаходзячыяся ў сетцы с.-г. крэдыту; прычым у першую чаргу задавальненьню пазычкай на насеньне падлягаюць заявы тых сялянскіх двароў ці групы двароў, якія ў бягучым годзе пераходзяць на шматпольле, ці перайшлі раней і цяпер патрабуюць насеньне траў дзеля засеву чарговага палетку па севазвароту. Гэтак-жа праз крэдычныя таварыствы задавальняюцца самастойныя запатрабаваньні арцеляў, комун і інш. с-г. таварыстваў, якія вядуць самастойную апрацоўку зямлі.

**Выданьне Наркомзема.** Адк. рэд. Зьм. **Прышчэпаў.**

Рэд. кол. *Э. Русецкі. А. Смоліч. Сьц. Тупяневіч.*